**Адам Клакоцкі**

**і ягоныя цені**

Раман у дзесяці гісторыях з жыцьця
адважнага асьветніка й энцыкляпэдысты
Яна Адама Марыі Клакоцкага і ягоных
ценяў, з дадаткам зацемаў аўтара,
двух эпіграфаў зь лістоў сусьветна
вядомых творцаў ды пасьляслоўем
Францішка Эн., у якім той упершыню
ў беларускім літаратуразнаўстве
скарыстоўвае пост-каляніяльны
*панятак галюцынагеннай прысутнасьці Сябе
як Іншага*, а таксама фрагмэнтаў
двух ненапісаных раманаў,
якія — з глыбокай мэтафізычнай
пэрспэктывы – бачацца як адзін
ненапісаны раман пад рознымі назвамі.

У гэтую кнігу можна ўвайсьці праз чатыры
розныя дзьверы. Выйсьця зь яе няма аніякага.
Вы ўваходзіце ў раман, калі ўпэўненыя, што ўсё
ў сьвеце мусіць мець свой сэнс і сваё мейсца.
Вы ўваходзіце ў кнігу гісторыяў, калі перакананыя,
што ня варта склейваць у адно чарапкі
ад розных вазонаў.
Вы ўваходзіце ў філязафічны трактат, калі вы
ня ў чым не перакананыя й ня ўпэўненыя. Вы ўваходзіце ў
практычны дапаможнік
па кітайскай народнай гульні ў інь і ян, калі адчуваеце,
што няма каму быць у чымсьці перакананым альбо
ўпэўненым.

*Пасьля таго, як сон на працягу доўгага часу прагульвае мой дух сярод буксаў, садоў ды чароўных палацаў, дзе я атрымоўваю ўсе казачныя прыемнасьці, я незаўважна перамешваю свае дзённыя і начныя мроі...*

Рэнэ Дэкарт,
зь ліста да Жана Люі Бальзака

*Мы надта лёгка паверылі, што прыгажосьць не ратуе*
*Вядзе легкадумных ад сну да сну — ажно да сьмерці*

Зьбігнеў Гэрбэрт,
зь ліста да Рышарда Крыніцкага

## Матэрыялы да жыцьцяпісу

## Адама Клакоцкага

Ян Адам Марыя Клакоцкі нарадзіўся шостага верасьня 1793 году ў фальварку Сапуны непадалёку ад Наваградку ў сям'і дробнага шляхціца. Год ягонага нараджэньня супаў з годам другога падзелу Рэчы Паспалітай, ён сам заўсёды памятаў пра гэта, неаднаразова падкрэсьліваў, а пад канец жыцьця нават надаваў гэтаму факту сымбалічнае значэньне.

Ягонае жыцьцё дастаткова вывучанае дасьледнікамі, каб спадзявацца ў гэтым сьціплым нарысе прапанаваць нешта новае. Зрэшты, гэта й ня ёсьць нашай мэтай. Усё, што можна было знайсьці ў архівах, ужо знойдзена, апошнія знаходкі Язэпа Янушкевіча, якія тычацца «беларускага» пэрыяду жыцьця гэтага вядомага літаратара й навукоўцы, толькі падкрэсьліваюць агульнае правіла. З усяе багатае спадчыны Яна Адама Марыі, якой «маглі б пазайздросьціць энцыкляпэдысты» (* *Словы Сыракомлі.*), мы хацелі б выбраць толькі адну лінію, адну тэму, а менавіта: Адам Клакоцкі як зьбіральнік, сыстэматызатар і дасьледнік сноў. Перад тым, як цалкам заглыбіцца ў гэтую праблему, у сьвятле якой, мы перакананыя, толькі й можна па-сапраўднаму зразумець і ацаніць цэльнасьць ягонага жыцьця, мы ўсё ж такі спынімся на некаторых момантах ягонай біяграфіі.

Як мы ўжо казалі, Ян Адам Марыя нарадзіўся ў фальварку Сапуны ў тыповай для таго часу сям'і дробнага шляхціца. Ягоная маці атрымала выдатную адукацыю: ад яе Адам навучыўся даволі добра гаварыць па-французску, а таксама займеў цікавасьць да ўсяго чароўнага, таямнічага, ірацыянальнага. Гэтая цікавасьць яшчэ больш узмацнілася пасьля даўгіх зімовых вечароў, падчас якіх распавядаліся страшныя гісторыі пра русалак, чараўнікоў, пра розныя незвычайныя здарэньні.

Пра пэрыяд вучобы ў наваградзкай школе мы маем крыху больш зьвестак. Адам меў добрыя адзнакі ў лаціне, крыху горшыя па астатніх прадметах. Ён быў досыць флегматычны, задумлівы і ўхіляўся ад звычайных падлеткавых гульняў і забаваў. Ад гэтага пэрыяду да нас дайшоў адзін ягоны верш па-польску, у якім Ян Адам Марыя параўноўвае радзіму з прыгожым сном, які сьніцца герою. Напрыканцы, у звароце да чытача, выказваецца пажаданьне, каб гэты сон доўжыўся вечна, бо мы ня ведаем, дзе і ў якіх краявідах нам давядзецца прачнуцца.

Пасьля школы Адам Клакоцкі паступае ў Віленскі ўнівэрсытэт. У гэты пэрыяд ён сустракае сваё першае каханьне, рамантычны сантымэнт да якога ён пранясе праз усё сваё жыцьцё. Ва ўнівэрсытэцкія гады Ян Адам Марыя заводзіць безьліч знаёмстваў, удзельнічае ва ўсіх магчымых сябрынах, як легальных, так і нелегальных, — часам супрацьлеглай скіраванасьці. У гэтыя часы ён пачынае цікавіцца ідэяй усеагульнай энцыкляпэдыі — ідэяй, якой, разам з глыбокай цікавасьцю да сноў, было наканавана адыграць такую істотную ролю ў ягоным жыцьці. Ён наведвае лекцыі па гісторыі, праве, літаратуры, але канчаткова спыняе свой выбар на філязофіі як навуцы, якая здольная сынтэзаваць усе магчымыя веды ў адзіны вялікі энцыкляпэдычны сынтэз. Пэўны час ён знаходзіцца пад сьледствам за сувязі з гуртком філяматаў, але ў чымсьці канкрэтным яго так і не змаглі абвінаваціць. Разам з усімі Ян Адам Марыя захапляўся Напалеонам і нават распавядаў пра сон, у якім ён быў адным зь ягоных слаўных маршалаў.

Пасьля сканчэньня Віленскага ўнівэрсытэту Адам Клакоцкі важыўся абараніць дысэртацыю «Сон як аргумэнт у палеміцы з картэзіянствам», у якой спрабаваў далучыцца да запозьненай на стагодзьдзе тэмы палемікі з Дэкартам. Агульны патас дысэртацыі цалкам супадаў з настроямі тагачаснай віленскай прафэсуры, але яна так і не была залічаная. Хутчэй за ўсё, сама аргумэнтацыя падалася занадта радыкальнай. Ян Адам Марыя цьвердзіў, што менавіта сон ёсьць тым неабходным і дастатковым аргумэнтам, які цалкам руйнуе славутую тэзу *cogito ergo sum*, а таксама апазыцыю рэчы працяглай і рэчы ўяўнай. Калі мы сьпім, пісаў ён, мы, відавочна, ёсьць, прысутныя ў гэтым сьвеце, але аніякага *cogito*, аніякага ўсьведамленьня не назіраецца. Зь іншага боку, калі браць пад увагу сны й палічыць іх пэўнай зьмененай формай такога ўсьведамленьня, ўсё роўна немагчыма выснаваць з гэтага факту аніякага праўдзівага цьверджаньня аб існаваньні «Я». Таксама, паколькі рэальнае «Я» зьнікае разам з сном, мы мусім прыняць магчымасьць існаваньня ў адной асобе некалькіх «Я», адно (альбо адны) зь якіх мела бы існаваньне рэальнае, а другое — соннае. Аніякіх крытэрыяў, якое з гэтых «Я» памеркаваць праўдзівым, знайсьці немагчыма.

Адразу пасьля сканчэньня ўнівэрсытэту ўсялякія сьляды аб ім губляюцца, гэта той самы «загадкавы» пэрыяд, які інтрыгуе шматлікіх дасьледчыкаў. Адзінае, што мы пэўна ведаем, гэта тое, што Ян Адам Марыя быў

заангажаваны ў падрыхтоўку паўстаньня, але ў якой дакладна якасьці — невядома. Тое, што засталося ад гэтага пэрыяду, гэта ліставаньне з Адамам Чарноцкім і Аляксандрам Рыпінскім. Я думаю, менавіта ад іх пайшла глыбокая цікавасьць, нават замілаваньне народнай культурай, якое затым будзе рэалізаванае ў другім томе «Ўсеагульнай энцыкляпэдыі сноў».

Па некаторых зьвестках, у гэты час Ян Адам Марыя вывучаў гіпноз у Бэрліне. Прынамсі лісты да Адама Чарноцкага маюць відавочны «бэрлінскі» калярыт. Падчас паўстаньня Адам Клакоцкі — зноў на радзіме. Ёсьць тры розныя вэрсіі ягонага ўдзелу: паводле адной, ён быў шараговым інсургентам у адным з аддзелаў пад Вільняй, паводле другой — кіраваў аддзелам пад Наваградкам, а паводле трэцяй — увогуле не прымаў удзелу ў вайсковых дзеяньнях, а даваў істотную інфармацыю пра перамяшчэньні расейскіх войскаў, служачы на пошце ў Менску. Ягоная цікавасьць да сноў, гіпнозу і мрояў набывае практычную скіраванасьць: ва ўспамінах паўстанцаў апісваецца гісторыя, як ён загіпнатызаваў цэлы эскадрон казакаў (разам з коньмі), якія заснулі і прапусьцілі рэшткі інсургентаў у накірунку аўстрыйскае мяжы (праўда, паводле расейскіх рапартаў, заснулі менавіта інсургенты і ўсе да аднаго былі адпраўленыя ў кірунку іншай мяжы — расейска-японскай).

Далей лёс Яна Адама Марыі складваўся даволі традыцыйна. Пасьля здушэньня паўстаньня мы знаходзім яго ў парыскай эміграцыі. Ён заняў у Парыжы відавочную антымагнацкую пазыцыю, што дазволіла некаторым абвінаваціць яго ў хлапаманстве. У Парыжы ён быў блізкі да асяродку ліцьвінаў, сябраваў зь Міцкевічам, адзін час нават уваходзіў у Кола Тавяньскага. Шапэн прысьвяціў яму адзін са сваіх палянэзаў. Але, безумоўна, менавіта парыская эміграцыя паспрыяла рэалізацыі самае істотнае падзеі ягонага жыцьця. У Парыжы ён падрыхтаваў і выдаў тры тамы з сваёй «Усеагульнай энцыкляпэдыі сноў».

Энцыкляпэдыя мусіла выйсьці па-француску, на мове тагачаснай адукаванай Эўропы, і сам гэты факт паказвае ўсю амбітнасьць аўтаравай задумы. Тэхнічныя праблемы занялі каля трох год, і ў 1836 годзе выйшаў першы том энцыкляпэдыі (паводле агульнай нумарацыі — сёмы), які меў назву «Сны адроджанай Польшчы» і адбіваў усеагульную цікавасьць да «польскага пытаньня» ў Эўропе.

Кола рэспандэнтаў было надзвычай шырокім. Тэма — надзвычай актуальнай. Таму няма анічога дзіўнага, што

Адроджаная Польшча сапраўды выклікала такую колькасьць сноў — іх сьніла як найменей палова прагрэсіўнай Эўропы. Але тут Адама Клакоцкага сьцерагла першая праблема, вырашыць якую было зусім няпроста. Праблема клясыфікацыі сноў. Усялякая энцыкляпэдыя мусіць мець пэўныя крытэры клясыфікацыі. Прынцып альфабэтнай арганізацыі Адам Клакоцкі адкінуў амаль адразу: клясыфікацыя паводле «аўтараў» была немагчымай, бо значная частка настойвала на ананімнасьці, а іншага крытэру Адам Клакоцкі так і не знайшоў. У прадмове да гэтага тому, гаворачы пра ідэю энцыкляпэдыі, Ян Адам Марыя прыходзіць да сумнай высновы аб «няўцямным, ірацыянальным парадку (маецца на ўвазе парадак альфабэту — аўт.), на якім грунтуецца нашая цывілізацыя і які мы ня можам ані рацыянальна пацьвердзіць, ані абвергнуць».

Урэшце Ян Адам Марыя падзяліў першы том на дзьве часткі: ананімныя сны і сны рэспандэнтаў, якія пагадзіліся пакінуць свае прозьвішчы. Кожная частка, у сваю чаргу, дзялілася на сны жаўнераў, сны жанчынаў і дзяцей ды «астатнія». Усе сны былі пададзеныя ў храналягічным парадку(?), што, паводле Яна Адама Марыі, мусіць адбіць глыбокія сувязі між актуальнай гісторыяй і «гісторыяй, адлюстраванай у снах».

Гэты том шырока аналізаваўся і апісваўся дасьледнікамі (хаця й не перавыдаваўся), таму мы спынімся толькі на адным моманце: ананімныя сны выглядаюць значна больш разьняволенымі, натуральнымі (калі не сказаць праўдзівымі), чым сны, што маюць дакладнага рэспандэнта. «Аўтарызаваныя» сны інтэрпрэтуюцца наўдзіў адназначна, іхны сымбалізм занадта празрысты і мае часам відавочныя літаратурныя карані. У ананімных снах хаця й прысутнічае аўтарская інтэрпрэтацыя, але яна выглядае толькі адной з магчымых вэрсіяў.

Так, у ананімным *сьне нумар 441* дзікія коні хаатычна нясуцца па полі, топчучы ўсё на сваім шляху, і рэспандэнт адчувае сябе адным з гэтых коняў. Інтэрпрэтацыя рэспандэнта досыць штучная — ён лічыць, што сон сымбалізуе шлях да свабоды, шлях, на якім ніхто ня ў змозе спыніць Адроджаную Польшчу.

Насуперак гэтаму, Ян Адам Марыя ў сваіх камэнтарах вытлумачвае гэты сон як *бег Гісторыі, няўмольнай і бязьлітаснай*, і прыходзіць да высновы, што «прымаючы гісторыю як такую, мы мусім быць гатовыя

развітацца з усім самым мілым і дарагім — і нават сны нашыя пры гэтым ня ёсьць надзейным прытулкам».

Яшчэ адно цікавае назіраньне: у той час, як жанчыны й дзеці пераважна сьнілі жаўнераў ды вайсковыя эпізоды й баталіі, самі жаўнеры (і мужчыны ўвогуле) апраналі свой патрыятызм у жаночую вопратку…

З пасьляслоўя да гэтага тому вынікае пэўная расчараванасьць Адама Клакоцкага сабраным матэрыялам. Ён выбачаецца перад чытачамі за пэўную павярхоўнасьць і банальнасьць прысьнёнага і фармулюе некаторыя тэарэтычныя і мэтадалягічныя тэзы што да сну як такога. Ян Адам Марыя цьвердзіць, што сны, як і жыцьцё, маюць шматслойную структуру і толькі «глыбінныя сны» дазваляюць нам пранікаць *на другі бок* і атрымоўваць праўдзівыя пасланьні. «Мы жывем на паверхні свайго жыцьця і сьнім на паверхні сваіх сноў», — гэтым бязьлітасным прысудам і сканчаецца кніга.

Першы том энцыкляпэдыі выклікаў грандыёзны скандал. Мы ня будзем апісваць усе магчымыя й немагчымыя прэтэнзіі й абвінавачваньні, якія былі высунутыя. Усё гэта добра вядома і не спыніла апантанай дзейнасьці нашага героя. Праз пяць год выходзіць другі том (паводле агульнай нумарацыі — дзясяты), які атрымаў назву «Сны простага люду». У ім Ян Адам Марыя спрасьціў клясыфікацыю — матэрыял арганізаваны паводле тэрытарыяльнай лякалізацыі — і ўзяў за аснову інтэрпрэтацыі навуковы апарат тагачаснай этнаграфіі. Сама праца адбывалася падчас «беларускага» пэрыяду жыцьця Яна Адама Марыі. Том атрымаўся дзьвюхмоўны: сны запісаныя беларускай лацінкай з францускімі перакладамі, камэнтары збольшага па-француску, але трапляюцца й беларускія інтэрвэнцыі.

Агульная ідэя тому, выказаная ў прадмове, — тое, што народная традыцыя захавала глыбокія пасланьні зь мінуўшчыны і гэтыя пасланьні зашыфраваныя як у фальклёры (які Адам Клакоцкі разглядае як калектыўны сон), так і ў глыбінных структурах індывідуальных сноў.

Нягледзячы на калясальную сетку рэспандэнтаў і прыхільнікаў, якую меў на той час Адам Клакоцкі, праект скончыўся паразай. Матэрыял сабраны неверагодна багаты (беларускія мовазнаўцы даўна ўжо ацанілі ягоныя вартасьці), але прарыву ў глыбінныя структуры не адбылося. Сны маюць пераважна пабытовы, прыватны (эратычны) і сацыяльны характар, а спробы Яна Адама Марыі вывесьці зь іх «пасланьні» (мы б сёньня сказалі —

знайсьці архетыпы) выглядаюць штучнымі й непераканаўчымі. Так, інтэрпрэтацыя вядомага выпадку, калі цэлая вёска тыдзень сьніла пярэстую карову, якая прапала колькі часу таму і лёс якой быў тэмай усеагульнага зацікаўленьня — выяўляе ўсю штучнасьць сытуацыі. Ян Адам Марыя спрабуе зьвязаць гэтыя сны з культам каровы ў індыйскай цывілізацыі, але, падобна, сам верыць у сваё вытлумачэньне хіба што напалову.

Пра трэці том мы ведаем толькі назву — «Літаратурныя сны», што трэба разумець як «сны, запісаныя й захаваныя ў літаратурных творах». Па некаторых зьвестках, том пасьпеў выйсьці і захаваўся ў некаторых бібліятэках (у прыватнасьці, Хорхэ Люіс Борхэс прыгадвае, што ён гартаў «нешта такое» ў Цюрыху). З гэтага тому для нас былі б цікавыя аўтарскія заўвагі й тлумачэньні — бо якраз пасьля выхаду гэтага тому Адам Клакоцкі спыняе праект Энцыкляпэдыі, атрымоўвае дараваньне ад царскіх уладаў і вяртаецца на Беларусь, дзе пачынае праект ня менш цікавы й захапляльны — засноўвае Беларускі Архіў Сноў.

Але гэта ўжо цалкам асобны сюжэт, і мы ня будзем падрабязна разглядаць яго тут. Скажам толькі, што ўдзельнікамі й рэспандэнтамі Яна Адама Марыі сталіся практычна ўсе беларускія культурныя героі дзевятнаццатага — пачатку дваццатага стагодзьдзяў. Хаця ня ўсё захавалася, ня ўсе матэрыялы апрацаваныя й уведзеныя ў навуковы ўжытак — мы чэрпаем і яшчэ шмат часу будзем чэрпаць з гэтага Архіву.

Архіў тлумачыць усё, акрамя самой апантанасьці, зь якой Адам Клакоцкі прысьвяціў сваё жыцьцё снам. Сны можна вытлумачыць, але ўласна гэтая апантанасьць і застаецца загадкай.

Мы, грунтуючыся на адным з прыватных лістоў, хацелі б прапанаваць сваю вэрсію. Рэч у тым, што Ян Адам Марыя ніколі ня сьніў уласных сноў. Мы лічым, што менавіта гэта турбавала яго ўсё ягонае жыцьцё й было той крыніцай апантанай дзейнасьці, у якой ён, відавочна, зьдзіўляў сваю эпоху. Пад канец жыцьця, ужо ў глыбокай старасьці, ён нават перастаў верыць, што жыве наяве, і лічыў, што ўласна ягонае жыцьцё і ёсьць тым глыбокім, даўгім, абсурдным сном, ад якога ён вось-вось мусіць прачнуцца. Ян Адам Марыя чакаў гэтага моманту з радаснай нецярплівасьцю, як дзіцё.

У ператвораным у гатэль клясыцыскім палацы пад Варшавай, на псэўданавуковай канфэрэнцыі па Віленскім

барока, у другой палове дня, калі бутэлька з кашэрнай вугорскай сьлівовіцай ужо напалову пустая, а сьвядомасьць, наадварот, поўніцца дасканала стылізаванымі вобразамі й знакамі чужых культураў, натуральна паўстае тэма Менску, згвалтаванага гораду, які, паводле лёсу, *няпоўны, але запоўнены* — і таму сутнасна пусты. У кожным пункце ягонай прасторы маніфэстуе сябе абсечаны сэнс, фрагмэнты самотаў.

Пра Менск можна гаварыць *толькі ў Вялікі Поўдзень* і выключна *шэптам гаючай непрысутнасьці*, шэптам, які, абрываючыся ў крык, потым натуральна пераходзіць у сьпеў даўна памерлай літоўскай бабулькі, форма душы якой так падабалася Міцкевічу, бо Менск — онталягічны скразьняк, пройма, пустата, якая прымушае цябе здрыгануцца, і з гэтага трымценьня, якое не праходзіць усё жыцьцё, паўстае недавер да канчатковых запоўненых рэчаў, тоесных сабе назаўсёды.

Гэты горад мне ўпершыню прысьніўся ў сямнаццаць год, у адзін шэры, восеньскі, дажджысты дзень, і таму ў маім Менску заўсёды ідзе дождж, хаця гэта быў магічны горад, стары Менеск нездарма паставіў свой млын на гэтым мейсцы, ён мяняўся разам з намі, і мы знаходзілі сябе напачатку ў Минске, потым у Мінску і далей у Менску, а яшчэ быў Mińsk...

Вядома, побач сьвяціла цьмянымі паганскімі вагнямі Вільня, горад-нэкропаль, ідэальная запоўненасьць, могілкі гісторыі, на якіх так хораша супадаць з сваім часам... маршрут у паўтысячагодзьдзя, ад Вострай Брамы да Гедыміна, які адольваўся за паўгадзіны, лёгкая эйфарыя, да якой немагчыма звыкнуцца. Побач была Варшава, якую немагчыма любіць, праз якую заўсёды кудысьці праяжджаеш. Лёндан, зь ягонай утульнай самотнасьцю. Любляна — горад-паверхня, венскае барока, насычанае вэнэцыянскай бязьлітаснасьцю. Будапэшт, які б мог стацца сярэднеэўрапейскім Парыжам, калі б вугорская мова не была б такая складаная. І Парыж, вядома, Парыж...

Пасьля Парыжу можна нікуды не сьпяшацца: крыху кальвадосу ў гасьцявым пакоі на вуліцы Жан Гужон і дасканалае разуменьне, што, акрамя Менску, адзінае мейсца ў сьвеце, у якім ты дома, — пустата гатэльных пакояў, у якіх заўсёды побач з табой гэты маўклівы, згвалчаны ўсімі ўладамі горад, які ўжо даўно анічога анікому не прапаноўвае на продаж, толькі руіны, што застаюцца пасьля кожнай улады...

Горад, які затаіўся.

* * *

У Менску я ўпершыню сустрэўся з Валянцінам А., і далей мы, як сьляпыя зьвяры, пэрыядычна сутыкаліся ў шэрым лябірынце сьвету. Валянцін А. любіў Мінск за ягоную далікатную адсутнасьць як падзеі быцьця, я любіў Менск за ягоныя мэтафізычныя прадоньні. Такім чынам, мы існавалі ў розных гарадох, але ў адным лябірынце.

* * *

Менск — гэта адхіленьне ў непаўнату, непаўната як прытулак, — сказаў я.

Мінск — гэта паверхня, якая нас трымае і не замінае нам ня быць намі самімі, — сказаў Валянцін А.

Мінск — гэта прыгожа асьветлены тунэль у Ніштo, — сказаў я.

Менск — гэта архаіка логацэнтрычнага сну пра магуту, — сказаў Валянцін А.

Mińsk — гэта пяшчотнае шаленства чужой памяці, — сказала мова.

* * *

Мы ў палоне гэтага гораду, — сказаў Багдан, — мы, праўду кажучы, чыстыя прывіды.

Мяне гэта цалкам задавальняе, — адказаў Францішак і шчыльна захінуў фіранку.

Пад раніцу ў гэтым жа нумары пад Варшавай нарадзілася ідэя шыкоўнага падарунку для спадара Х.: дваццаць пяць кактусаў у камплекце з кранікамі для тэкілы. Як вядома, тэкіла паўстае з кактусаў і глыбокая онталягічная сувязь гэтых дзьвюх рэчаў не падлягае сумневу, але ў справу ўблытваюцца разнастайныя пасярэднікі: мэксыканскі ўрад, які прыватызаваў вытворчасьць тэкілы, пакупнікі і перакупшчыкі *etc* і *etc*.

Памятаючы пра першы (і галоўны) запавет Бадхітхармы — перадачу праўды без дапамогі словаў, — мы наважыліся на адпаведны крок: арганізаваць перадачу тэкілы спадару Х. без дапамогі мэксыканскага ўраду.

Кранікі мусяць напраcткі ўстаўляцца ў кактусы, і далей нам застаецца толькі чакаць і верыць. Пры гэтым рэцыпіент мусіць быць інтэлектуальна і духоўна падрыхтаваны. Але нават і тады ніхто ня можа даць аніякіх гарантыяў.

Зрэшты, як казаў другі спадар Х., галоўнае —

верыць. У Бога. Радзіму. Кактусы. У кранікі. У пустату. У тэкілу.

**Менская опэра**

Яна сказала, што, апрача Кафкі, ніхто ня піша сёньня такіх жудасных гісторыяў.

Я асьцярожна падзякаваў. Потым была кавярня, мы сядзелі небясьпечна блізка, п’яны й сьмешны Лангабард вёрз нам нешта пра нэабарока. Сусьветны архітэктурны сынтэз, кельты, новы эўрапейскі парадак. Я ўзяў ейную руку, асьцярожна дакрануўся губамі. Яна засьмяялася. П’яны Лангабард пераконваў афіцыянта: плебейскі функцыяналізм нараджае плебейскі ампір, плебейскі ампір — гэта руіны жыцьця... Дзеля пацьверджаньня ён пачаў размалёўваць рахунак карункавымі абрысамі. Афіцыянт цярпліва чакаў.

— Бедны Лангабард, ён позна нарадзіўся, — сказала яна й паглядзела на мяне. Я баяўся паверыць.

Потым у маёй маленькай кватэрцы мы стаялі каля вакна і я бачыў, як праз лёгкую тканку сукенкі ўладна праступаюць цмочкі яе грудзей.

* * *

Яна прачыналася сярод ночы ад свайго крыку й штораз пыталася, як я прыдумаў гэтую краіну. Я спрабаваў жартаваць, казаў пра Томаса Мора і лекара Гільятэна, пра тое, што вокны маёй кватэры глядзяць на Ўсход, а там сёньня цудоўны сюжэт для нацюрморту. Яна павольна супакойвалася, тулілася да мяне й мы заціхалі ў працяглых пацалунках. Да наступнае ночы.

Удзень мы бадзяліся па менскіх вулках, увечары сядзелі ў кавярні альбо ў майстэрні ў Тодара. Ночы былі нашыя.

Кожная ноч была сьвятам, заўсёды нечаканым, мы знаходзілі ўсё новыя магчымасьці насалоды.

— Чалавек — вандроўнік і госьць, — казала яна, — нам было наканавана сустрэцца, цалкам выпадкова, каб ствараць гэтыя дні ў харастве і няпэўнасьці... Нельга думаць пра вечнасьць. Мы абавязкова разыдземся — кожны сваёй сьцежкай.

Усё гэта так, толькі яе губы казалі іншае, яе рукі, яе вочы казалі іншае... калі яна прачыналася й тулілася да мяне ды пыталася, як я прыдумаў гэтую краіну.

— Я чытаю тваю кнігу, — казала яна, — і адчуваю,

што з усімі гэтымі людзьмі адбываецца нешта жудаснае, пра гэта ты ня пішаш, але само адчуваньне нараджаецца менавіта з таго, што ты пішаш пра іншае. Тваё героі жывуць, як быццам таго, жудаснага, не існуе, але ад гэтага жудзь толькі ўзмацняецца, працінае кожную іхнюю рысу, кожны рух і кожнае слова...

— Разумееш, — ліхаманкава шаптала яна, — яны толькі выглядаюць рабамі, жывёламі, у якіх зьнішчана ўсё чалавечае, насампраўдзе гэта немагчыма, у чалавеку чалавечае зьнішчыць немагчыма... можна размаляваць паверхню, можна разыграць п’есу, можна сфальшаваць, але ня зьнішчыць... ты апісваеш гэтую вонкавасьць, гэты абсурдны сцэнар, але далей ня йдзеш, пакідаеш сьцежку, але сам ня йдзеш... і ад гэтага такі жах... *з гэтай сьцежкі, адтуль точыцца сусьветнае зло...*

Яна казала ўсё хутчэй ды тулілася да мяне. Ейныя вочы глядзелі зь непадробным болем, яна чакала адказу. Я паспрабаваў быць сур’ёзным:

— Ты гаворыш так, як быццам у сьвеце не засталося аніякіх межаў. Мы жывем у Менску, а мае героі жывуць толькі ў маім уяўленьні ды ў гэтым невялічкім томіку. Гэта ўсё гульня, *толькі гульня.*

— Усё гэта так, — казала яна, — але так было, пакуль гэты сьвет быў тваёй уласнасьцю, тваім уяўленьнем, цяпер жа ён адасобіўся, ён стаў незалежным... цяпер ён мае ўладу над намі ўсімі...

Спрачацца было ня варта. Зранку я адвёз яе да знаёмага лекара. Лекар, чалавек сталага веку, адразу параіў невялічкі прыватны пансыянат каля Слуцаку, з добрай абслугай ды кваліфікаванай дапамогай. Праз тыдзень яна пераехала.

У апошнюю ноч яна распавяла ўсё.

Пасьля прачытаньня кнігі, сказала яна, яе перасьледавала адное і тое ж трызьненьне: агромністы шэры будынак, нешта сярэдняе паміж антычным амфітэатрам і вайсковым умацаваньнем. Людзі ўсярэдзіне, у мяшкох-балахонах, шчыльна завязаных на горле, так што наверсе застаюцца толькі галовы. Людзі варушаць рукамі і нагамі, гэта бачна, але балахоны прыхоўваюць рухі і ў выніку ўсё гэта выглядае, як шэрыя хвалі на тле шэрага акіяну. Зазвычай усё патанае ў цьмянай невыразнасьці, але часам праступаюць твары: вочы, поўныя пакуты, шчыльна сьцятыя вусны. Канцоўка гэтага трызьненьня заўсёды адна: пагойдваньне ўсё ўзмацняецца і ў пэўны момант людзі спрабуюць закрычаць... але толькі

невыразнае сіпеньне. І тады пачынае крычаць яна…

Яна спадзявалася, што пасьля нашае сустрэчы ўсё зьменіцца, але наадварот, трызьненьне рабілася больш выразным, твары ўсё больш пазнавальнымі…

Зранку мы разьвіталіся. Я меў пачуцьцё незразумелае прыкрасьці, адчуваў, што яна нешта недагаворвае, магчыма, нешта істотнае. *Яна мяне шкадавала.*

* * *

Наступны тыдзень я прасядзеў у кавярні, спрабуючы даць сабе рады. Афіцыянт падносіў усё новыя порцыі каньяку, але я быў безнадзейна цьвярозы. Я падрабязна прыгадваў, як усё пачыналася, весела й гіранічна; нішто не паказвала на гэткі прыкры канец.

Кніга была задумана ў жанры «камэдыі пераапрананьняў» з элемэнтамі антыўтопіі. Мне было вясёла ўяўляць, якім было б жыцьцё, калі б нашая «Ўсходнеэўрапейская Швайцарыя» не ўстаяла ў 1918 годзе. Калі б бальшавікі здолелі разагнаць *першы кангрэс*, а беларускія карпусы *не пасьпелі б* прарвацца з румынскага фронту. Я сьмяяўся, апісваючы ва ўсіх дэталях сцэну расстрэлу Балаховіча (вядома, не *міністра* ў гэткім выпадку) і высылкі Ластоўскага (спадзяюся, што ў *прэзыдэнта* не было часу азнаёміцца са сваім лёсам). Але гэта задумвалася адно ў якасьці дэкарацыі… У цэнтры была эпапея пабудовы Менскае Опэры. Страшнага шэрага будынку, нечага сярэдняга паміж амфітэатрам і дотам. Я падрабязна апісваў падвоз цэглы й працоўны энтузіязм, ранішнія перагукі брыгадаў і ўсенародны конкурс на стварэньне гімну Менскае Опэры. Я зрабіў Лангабарда (гэтага безнадзейнага п’яніцу, апошняга рамантыка, аматара Гофмана й Гёльдэрліна) — я зрабіў яго Архітэктарам. У звышзадуме кнігі ўсё жыцьцё ад васямнаццатага году мусіла быць афарбавана ў гэты сымболь. Усё жыцьцё — Менская Опэра! Парад марыянэтак!

Вядома, што сёньня, у нашыя часы афіцыёзнага рамантызму, калі Вітаўт ды Сапега стаяць на кожным пляцы, а партрэт Барбары Радзівіл упрыгожвае ледзь ня кожную парфумную крамку — мая трагікамэдыя пераапрананьняў засталася практычна незаўважанай. Я не пакрыўдзіўся.

І тут, пасьля адзінага прыемнага выніку — сустрэчы зь ёй — такі прыкры канец.

Афіцыянт прынёс рахунак, я зразумеў, што баюся

вяртацца дадому.

II

...7 верасьня

...Удзень — працяглая размова з М. Толькі што выйшла ягоная кніга «Цяжар Сьвету». Ён доўга казаў пра сваё захапленьне Ўсходам, пра паралельныя рэчаіснасьці, пра істотную няпэўнасьць Сусьвету. Ён казаў, што сьвет цісьне на нас адно таму, што мы пагаджаемся лічыць яго адзіным ды непазьбежным. У якасьці прыкладу ён распавёў гісторыю пра Чжуан Чжоў: як славуты пустэльнік аднойчы заснуў ды прысьніў сябе матылём, што вольна лётаў па-над кветкамі, зьбіраў нэктар і пачуваўся досыць няблага. Адчуваньне было такое выразнае, што, прачнуўшыся, Чжуан Чжоў ніяк ня мог уцяміць: ці ён Чжуан Чжоў, якому сьнілася, што ён быў матылём, ці ён матылёк, якому цяпер сьніцца, што ён Чжуан Чжоў... М. казаў натхнёна і пераканаўча. Я думаў пра свой раман ды крыва ўсьміхаўся.

...15 верасьня

Уначы праглядаў досьлед пра паходжаньне гільятыны. Высьвятляецца, што францускі лекар Гільятэн вынайшаў спосаб гуманнага пакараньня: калі нож падае на шыю, усё адбываецца так хутка, што ня мае сэнсу казаць пра пакуты. Як гэта характэрна для Асьвечанага Розуму!

Гісторыя — нашая гільятына.

...1 кастрычніка

Зь незразумелай тугой бадзяўся па вулках, трывожныя прадчуваньні. Здаецца, уся гэтая крохкая гульня ў культуру, што так усім нам падабаецца, — хутка скончыцца — і скончыцца жахлівым, нікім ня бачаным дасюль крывавым хаосам. Зайшоў у кавярню. Сеў за той самы столік, за якім мы зь ёй сядзелі, замовіў каньяку. Прыгадаў ейныя вочы, нашае нядоўгае начное шчасьце. Гэта было ў іншым жыцьці? Афіцыянт сказаў, што Лангабард ужо месяц як сюды не заходзіць.

...10 кастрычніка

...Паўсюль толькі й размовы, як пра новы саюз з Усходам, сацыяльны аптымізм, новыя тэхналягічныя

пэрспэктывы. Як мне гэта нецікава! Няма ніякіх новых задумаў, адно гэтае мэханічнае запаўненьне дзёньніка... Жыцьцё цячэ між пальцаў. Куды?

...3 лістапада

Заходзіў Лангабард. Паголены, у новым гарнітуры, пры гальштуку. Паведаміў, што парваў зь мінулым (?) жыцьцём, з п’яной безадказнасьцю ды вашапрудным рамантызмам... Хоча стаць прафэсійным архітэктарам...

...1 траўня

...На вулках незразумелы шум. Страшна падумаць — вось ужо паўгоду, як я туды не выходжу. Так, жыцьцё паўсюль. Мне здаецца, што я ўжо не адрозьніваю — калі сплю, калі абуджаюся. Гэты пераход — ад аднаго да другога — такі крохкі, такі незаўважны. Калі жыцьцё — сон, дык сон, напэўна, таксама жыцьцё.

...20 траўня

....

...7 карстры

прынесьлі балахон шэры з адтулінай на галаве але бяз рук прысьпешваюць кажуць усе чакаюць пытаюся каго маўчаць кажуць хутчэй мушу апошняе ёсьць толькі тое што

*Менск, 1934 г.*

## ***Шамбала***
*(раман)*

Аднойчы раніцай Лявон К. прачнуўся і знайшоў-сябе-ў-сьвеце.

* * *

...Шчотка й зубны парашок былі з пракаветных часоў, яшчэ Геракліт імі карыстаўся, яны былі сярод алхімічных прыладаў Парацэльса, Вялікі гетман Агінскі вазіў іх у невялічкім куфэрку, уцякаючы ад маскалёў. Цяпер яны ляжалі ў шафачцы, побач зь іншымі рэчамі, штораніцы ён чысьціў зубы, палошчучы рот вадой, крыху іржавай, з прысмакам хлёркі. Ён тварыў гэты рытуал, спрабуючы затушыць усе пачуцьці, каб засталіся толькі зубы й рука, цешачы сябе думкай, што прыпадабняецца прыродзе, якая таксама не ўсьведамляе лёт восеньскага ліста ці плёскат вады, што гэта нязначнае дзэн-практыкаваньне прыдасца яму для нечага іншага.

* * *

*Набрынялыя нечаканай празрыстасьцю, ейныя вочы былі адзінай сьветлай плямкай у ягоным жыцьці, так яму чамусьці падумалася.*

Ён перайшоў дарогу й некаторы час бязмэтна ішоў па прашпэкце, потым збочыў, сеў, прытуліўся да агароджы. Дзьмуў лёгкі ветрык.

Лявон К. выцягнуў нататнік, у які ён запісваў тое, што адбывалася вакол яго. Калі ён проста сядзеў, сузіраючы навакольнае асяродзьдзе, каля яго часам спыняліся людзі, аб нечым пыталіся, часам вымушалі паказваць пашпарт.

З нататнікам жа ён нібыта чымсьці займаўся, і хаця, чым ёсьць гэты занятак, Лявон наўрад ці быў здольны камусьці патлумачыць, у паветры лунала пачуцьцё пэўнасьці й бясьпекі.

Лявон К. знаходзіўся ў стане разьяднанасьці са сьветам і ўласным жыцьцём, на меркаваньне знаёмага псыхіятра, у яго назіраліся ўсе прыкметы падваеньня асобы, памножаныя на астэна-дэпрэсіўны сындром і неспрыяльныя хатнія ўмовы. У дадатак да розных пігулак псыхіятар раіў бегаць, піць бром і сябраваць з кабетамі, на апошняе налягаў асабліва, пры гэтым прыцмокваў языком

і рабіў непрыстойныя гэсты. У адказ Лявон ласкава называў яго *майн Фройд* і, у сваю чаргу, раіў больш чытаць, тут жа прапаноўваючы які-небудзь *ноўбэл прайз ноўвэл* са сваёй бяздоннай торбы альбо проста кніжку з малюнкамі, якую ён часам купляў для дачкі гаспадыні.

Зранку Лявон К. наведваў лекцыі ў несамавітым шэрым будынку на галоўнай плошчы гораду, але пасьля дзьвюх гадзінаў ён быў ужо вольны. Ён адразу ішоў піць каву ў бістро «Хвілінка», і яму здавалася, што наведваў лекцыі іншы чалавек, а ён гэты час спаў і прачнуўся толькі тут, у бістро, і з гэтага пачаўся ягоны дзень.

Часам кава ў горадзе зьнікала, тады пасьля дзьвюх ён адразу ішоў у пакойчык і клаўся спаць, вырашыўшы, што калі немагчыма прачнуцца сярод сну, дык застаецца толькі заснуць. Тое, што жыцьцё — гэта толькі сон, было ягонай працоўнай гіпотэзай, якая фактам пакуль не супярэчыла й да таго ж мела доўгую гісторыка-культурную традыцыю.

Праўда, гэты сон-навакольле запэўніваў, што ён і ёсьць адзінай і непахіснай рэчаіснасьцю, але якраз гэтай гіпотэзе супярэчылі шмат якія факты. Па-першае, рэчаіснасьць ніяк не магла быць незразумелым балаганам, а ўсе ягоныя сябры пагаджаліся, што вакол менавіта балаган, рэжысэр якога аніяк ня можа працьверазець. Па-другое, Лявон К. прачынаўся сярод гэтага балагану, і тады яму прыходзілі ў галаву яго лепшыя старонкі, ён адчуваў свабоду й гармонію. Было б дзіўна, калі б існавалі дзьве роўналеглыя рэчаіснасьці, калі сапраўдная рэчаіснасьць — свабода, суладзьдзе й творчасьць, дык тое, іншае — напэўна толькі сон.

* * *

Ад некаторага часу Лявон уваходзіў у невялікую містычна-дэкадэнцкую групу, якая праходзіла па дакумантацыі раённага аддзелу КДБ як «рэлігійна-антысавецкая сэкта з цэнтрам у Шамбале» і ад якой цярпліва чакалі чаго-небудзь, што можна было б далучыць да справы як рэчавы доказ.

Яны звычайна сыходзіліся ў Санскрыччыка а восьмай гадзіне і бавілі час да адзінаццаці. У студыі, якую той вартаваў, было прасторна й артыстычна, да таго ж шмат якія рэчы, што служылі для нацюрмортаў, можна было выкарыстоўваць па прызначэньні, што яны й рабілі з усёй непасрэднасьцю і артыстызмам.

*Сьветлая плямка ў жыцьці, празрысты аловак, якім*

*піша свае пісьмёны Бог, падумалася яму.*

Яна таксама прыходзіла на іхныя сходкі, сядала ў кутку, незаўважна ўваходзіла ў патаемныя сувязі з рэчамі абсталюнку. Тое, на чым спыняўся яе позірк, нібыта вылучалася з усяго, ажывала. А потым пачыналі здарацца дзіўныя рэчы — сярод гутаркі зьнянацку ўсе змаўкалі й пачыналі бачыць. Што менавіта, ніхто растлумачыць ня мог. Часам хтосьці спрабаваў патлумачыць *гэта* тэарэтычна, але гэта ўжо было *ня тое*. Усе ветліва слухалі, Санскрыччык паціху заўважаў ветлівасьць і абачліва пытаўся ў Яе, што Яна думае пра Шамбалу. Яна ў адказ усьміхалася, і ўсе разумелі: так, гэта й ёсьць Шамбала.

*...нікейскія трыеры адышлі ў сваё апошняе падарожжа, на пошукі таемнай зямлі, праз усё змушэньне й недасканаласьць сьвету, праз тугу, што ўладарна пануе, нязбытна адшуквае нас у шчыльна набітых кватэрах, сярод крыху сумнага фэсту жыцьця, ставіць тварам да вечнасьці, і ў гэтым крохкім люстэрку рэчаіснасьць адбіваецца як сон, што сьніцца нікому, сказаў ён.*

## Магдачка

На старым фатаздымку з Архіву Клакоцкага ледзь бачныя восем постацяў: стаяць, узяўшыся за рукі. Спакойныя, засяроджаныя твары, на некаторых усьмешка. Страх глыбока схаваны, амаль што забыты. Дзяўчына зьлева: твар у профіль: усьмешка. На адвароце атрамантам каліграфічна: «малодшыя танцоры Беларускай гімназіі ў Рэгензбургу». Унізе ледзь разборліва, алоўкам: «але сьвет, як павуціньне, трымае».

* * *

Мы сядзім у паўзмроку кавярні, гаспадар фатаздымка мае твар, падобны да хіжае птушкі. Ён доўга шукае словы, самі словы выплываюць аднекуль з глыбіняў, затрымоўваючыся па дарозе, пераадольваючы невядомыя прорвы... Надта павольна... Там, у гэтых глыбінях, няма столікаў з афіцыянтамі: жыцьцё там падобнае да цёмнага поля, засеянага сьмерцю. Адзін неадпаведны крок — і чалавек зьнікае назаўсёды, быццам яго ніколі й не было.

Часам зьнікае й бяз крокаў, спрабуючы спыніцца, калі ўсе кудысьці бягуць. Бо насамрэч *усе* кудысьці бягуць, усе вымушаныя браць удзел у бясконцай лятарэі сьмерці.

Але ёсьць і штосьці горшае за сьмерць. Насамрэч памерці ня страшна. Страшна быць пахаваным ужывую — ва ўтульным пекле, складзеным з чалавечага страху.

* * *

Пекла — мая Радзіма.

* * *

Маё дзяцінства прайшло на бабуліным хутары пад Ваўкавыскам: бацькі мусілі адкульсьці вярнуцца, адкуль, бабуля не казала... Але сумаваць не было калі: на хутары было шмат працы, на гарышчы — шмат старых газэт і часопісаў. А яшчэ кніга прыроды, чытаць якую я ніколі не стамляўся...

Неўзабаве бабуля памерла, і я перасяліўся ў сталічны інтэрнат. І ўжо праз год разам з усімі ўскідваў руку ў піянэрскім салюце. Піянэрскія атрады прамаршыравалі праз рэшту майго дзяцінства...

У дваццаць два, на чацьвертым курсе ўнівэрсытэту, я пачаў задыхацца. Адчуваньне, што я пахаваны жыўцом, душыла й не давала жыць. Зрэшты, і жыць не асабліва хацелася. Ані веры, ані спадзяваньняў: я ўжо ведаў, дзе мне пашчасьціла нарадзіцца.

У дваццаць пяць я знайшоў Радзіму. Яна, нечакана для мяне, мела шмат агульнага з бабуліным хутарам: была схаваная ад усіх і паціху занепадала.

У трыццаць я навучыўся маўчаць. Маўчаньне было занадта гучнае і важкае, каб яго не заўважылі.

Праз пару год *там* выйшла мая першая кніга «Арфэй у пекле». Словы ў ёй былі, як запалкі, успыхвалі на хвіліну, асьвятлялі цемру й згасалі.

Паўгоду *ім* спатрэбілася, каб знайсьці аўтара: седзячы ў габінэце палкоўніка КДБ, я марна спрабаваў пераканаць сябе й яго, што той мне толькі сьніцца. «Мы пахаваныя, нашы галасы гучаць глуха, — падпісаў я пратакол допыта. А потым яшчэ: — І слухае нас толькі палкоўніка вуха».

У вар'ятні быў вялікі сад...

* * *

Выйшаўшы, я зразумеў, што жыцьцё зьмянілася. Сьціплае, утульнае пекла, з сваімі аўтобусамі й

тралейбусамі, піянэрамі й палкоўнікамі, з словамі, якія нешта значылі, і кнігамі, якія былі напісаныя крывёю, — усё гэта засталося толькі ў маёй памяці. Сёньня, калі ўсё скранулася з сваіх мейсцаў, усё кудысьці паплыло, мне нават шкада тых часоў.

Зрэшты, мне ўжо глыбока за пяцьдзясят. Я тут анікому не патрэбны, акрамя аматараў архіўных успамінаў. Пасьля шпіталю знайсьці добрую працу было складана, урэшце мяне ўладкавалі ў невялічкі прыватны архіў на пасаду звычайнага архіварыюса. Часам мне здаецца, што і я сам ужо — толькі папера зь нейкага забытага фонду.

Твар дзяўчыны на адным з фатаздымкаў Архіву, што патрапіў да нас з новымі эмігранцкімі зборамі, падаўся мне страшна знаёмым. На ім я пазнаў Эўрыдыку з майго дзяцінства. Так, я нічога ня блытаю. Калісьці да мяне туды спусьцілася Эўрыдыка. Мёртвая, на парашуце.

* * *

Гаспадар фатаздымку цьмяна прыгадвае.

*— Так, лягер. Вясновы пах, руіны, амэрыканская вайсковая адміністрацыя, прыцішаная нямецкая гутарка, жаданьне пачаць жыць нанова. Іншым жыцьцём. Часам аблавы з савецкай зоны, калі ўсе выходзілі зь лягеру, вымушаныя былі хавацца. Яна ніколі не хавалася.*

*Нягледзячы на галечу, на страх, было адчуваньне дзікага, забароненага шчасьця, сярод руінаў, прыгожага, як шыпшына. Мы сьпявалі й танчылі крывіцкія песьні. Каханьне. Мы былі зусім дзецьмі, шаснаццаць — васямнаццаць год... Мы выбраліся зь пекла, мы гэта ведалі. Перад намі быў вялікі сьвет...*

* * *

*Магдалена Вярбіцкая? Ня ведаю, ці сапраўднае імя. Тады шмат хто назаўсёды стаўся іншым. Сапраўднае імя было недаравальнай раскошай. Яе вымаўленьне досыць дзіўнае, я такога ніколі ня чуў раней. Яна прыгожа сьпявала, казалі, да вайны была студэнткай кансэрваторыі ў Менску.*

*Яе мінулае? Ніхто не імкнуўся прыгадваць мінулае.*

*Усе жылі, як быццам толькі прачнуліся пасьля цяжкога трызьненьня. У яе на руцэ быў нумар зь нямецкага лягеру пад Менскам...*

* * *

*Наперадзе было жыцьцё, і яго трэба было неяк пражыць. Лёвэн, потым Парыж, Ангельшчына. Потым усе зьехалі ў Амэрыку. Засталося няшмат. Тады шмат было такіх, як мы: бяздомных, закінутых у сьвет бадзягаў. Сярод зруйнаваных гарадоў жыцьцё яшчэ толькі-толькі прачыналася...*

*Яна была не такая, як усе. Яе часта бачылі з Багданам, ён выдаваў «Шыпшыну». Паглядзіце падшыўку, магчыма, штосьці знойдзеце... Там мусіць быць адзін верш, пра радзіму, ён нас тады моцна ўразіў.*

*Радзіма? Лёгка забыцца на Радзіму-забойцу. Цяжэй — на сьветлую, далёкую мрою. Зь ёй можна пражыць усё жыцьцё. Яна была іншая. «Сэрца — мая радзіма», — яна казала, і цяжка было запярэчыць.*

*Мы пакляліся стаяць дарэшты. А потым яна зьехала ў Парыж, з адным букавінцам, яна называла яго Леа. Ён быў букавінскім гэбраем, пісаў па-нямецку. Яе ніхто не разумеў да канца.*

* * *

Наша радзіма — сэрца,
Яно ня здрадзіць ніколі...

* * *

*Чаму яна зьехала з Паўлем? Ня ведаю. Яна паўтарала: сэрца — мая Радзіма. Потым яна ўзяла шлюб з Майклам, жыла ў Амэрыцы, потым — з французам...*

* * *

*Як яна патрапіла ў групу? Нас усіх цягнула да гэтага вогнішча, як матылёў на вагонь, і мы да канца жыцьця будзем... самыя адчайныя ляцелі напрасткі. Зрэшты, яна так ніколі й не адыходзіла. Гэта было*

*немагчыма.*

*Яна была лепшай радысткай. Мы ўсе падпісалі кантракты, трыццаць год маўчаньня. Яна паляцела ў першай групе. На шыфроўку яна выбрала кніжку вершаў, што выйшла ў Парыжы, па-нямецку, звалася, здаецца, «Мак і памяць».*

* * *

*Яна пакінула мне дзёньнікі, я іх разгарнуў два гады таму, калі пацьвердзіліся зьвесткі... што яе больш няма...*

* * *

«...Сьцены раптам апрытомнелі ад сну. Яны былі жывыя, дыхалі разам з намі. Мы ляжалі аголеныя, маё цела ўздрыгвала. Столь была адзіным аграмадным вокам, яна глядзела на нас, яна спрабавала нас убачыць ва ўсіх падрабязнасьцях. Леа паставіў папяровыя кветкі ў ваду, кветкі ў форме сэрцаў, мы сьмяяліся. Потым я заплакала. Прыгадала Альму. Леа ня ведаў Альму. Я чытала яму на памяць яе вершы, апошнія, напісаныя за пару дзён да сьмерці. Маё сэрца мокрае, як папяровыя кветкі ў гарлачыку, яно сплывае ў акіян немагчымага каханьня, немагчымага таму, што каханьне стаецца магчымым, толькі калі яно немагчымае...»

«Багдан, мілы, я ня ведаю, дзе ты цяпер, ня ведаю, як гэта назваць, але чамусьці адчуваю твой позірк, твае вочы... мы дыхаем, мы ўсе памёрлі. Я зразумела гэта дакладна. Мы ўсе тут шукаем чагосьці іншага, завем адзін аднаго забытымі мёртвымі імёнамі, якія ўсё яшчэ жывуць у нас. Два самыя дарагія мне чалавекі, ты і Альма...

але сьвет, як павуціньне, трымае»

* * *

Іх выкінулі пад Ваўкавыскам. Парашуты раскрыліся адразу, як вялікія белыя кветкі ў цёмным полі Радзімы, уначы. Самалёт крыху затрымаўся, каб разьвітацца, каб ветла памахаць крыламі, на адну хвіліну даўжэй, чым трэба, якраз дастаткова дзеля таго, каб аператыўная група іх ідэнтыфікавала й высунулася вялікім паўколам у меркаванае мейсца прызямленьня, падымаючы па рацыі ўсе мабільныя сілы ў раёне. Калі ж стала зразумела, што вецер зносіць іх за раку, у бок лесу, дзе яны маюць усе шанцы адарвацца, заблытаць сьляды, камандзір даў

каманду адкрыць агонь і бліскавічныя кулі з шаснаццаці аўтаматаў і аднаго дробнакалібровага кулямёту панесьліся насустрач белым кветкам, што павольна спускаліся ў цёмнае поле радзімы. Яны былі расстраляныя ў паветры, уначы.

* * *

*Апошнія здымкі? Два гады таму. Я гартаў копію справы. «Здымак невядомай». Яна ляжыць на мокрай траве, спакойная, жахліва прыгожая.*

*Аніякіх дакумантаў і папераў не было знойдзена. Сьледчы нават ня мог ідэнтыфікаваць асобу, так яна й засталася — «невядомая».*

* * *

Гаспадар фатаздымку разгублена змаўкае. Можна паставіць кропку ў гэтай гісторыі, расплаціцца за вячэру, выйсьці на цёмную вуліцу забытага правінцыйнага гарадку ў штаце Нью-Джэрсі, можна вярнуцца ў дзяцінства, на хутар пад Ваўкавыскам, да бабулі, у ціхую летнюю ноч, калі так хочацца выбрацца з ложку, ціха апрануцца, незаўважна выйсьці ўва двор, далей, да рэчкі, і далей, купал парашуту, брэх сабакаў, стрэлы й хлопчык, які глядзіць і глядзіць, як ты сыходзіш зь нябёсаў, спускаесься па абшарпаных, брудных прыступках, сюды, да нас, у пекла, у цёмнае поле Радзімы, стрэлы й сабакі з Аіду ўжо чакаюць, бягуць з ашчэранымі пашчамі.

Магдачка, Эўрыдыка.

***Энцыкляпэдыя для героя:***

***радзіма***

Радзіма — Крыўя* (Атлянтыда)
Узрост: 27 год
Імя: Францішак

* 1. Пахаваная на ядлоўцавых пустэчах.
2. Ціха пульсуе ў крыві.
3. У восьмым стагодзьдзі апусьцілася на дно гісторыі.
4. Сёньня існуе як культурны міт.

* * *

Расчыніць дзьверы і ўвайсьці ў гастраном «Радзіма»: кавы, калі ласка. Падвойную з цукрам. Мусім тут сабрацца, дамаўляліся а дванаццатай, тут, пад гадзіньнікам. Будзем чакаць.

Чакаць-чакаць. Тут, пад гадзіньнікам, час спыняецца, можна згадаць дзяцінства. Заўсёды можна згадаць дзяцінства.

Запытацца — як — калі — высьпела гэтае цела, гэтая абалонка і што ўнутры? Якім чынам душа прыняла форму безнадзейнай выспы, замкнутае манады — сярод абставінаў, дэкарацыяў, іншых целаў? Куды, бяздомная вандроўніца, ідзеш, паліш цыгарэту, аглядаеш урбаністычныя краявіды? Адна.

Адна.

* * *

Ціха пульсуе ў крыві радзіма.

**Выспа**

Невялічкі калідор зноў і зноў прыводзіў да дзьвераў, трэба было вяртацца й пачынаць свой шпацыр нанова. Чалавек у даўгім шпітальным халаце атрутна-зялёнага колеру, здавалася, ня меў аніякай спакусы адчыніць гэтыя дзьверы. Яшчэ не даходзячы да іх, ён спакваля рыхтаваўся да павароту, сам паварот атрымоўваўся лёгка й натуральна. Чалавек ведаў: дзьверы замкнутыя. Ведаў таксама, што, калі, спадзеючыся на чыюсьці нядбайнасьць, дакрануцца да клямкі, сьпінай можна адчуць пільны позірк санітара. І нават калі зробіш выгляд, што гэта выпадковасьць, вочы санітара будуць сачыць за табой да канца дня. Так што ня варта. Лепей сказаць сабе, што ўсё добра, усё натуральна, і, застаючыся на самоце, дазволіць думкам вольна блукаць сярод рэчаў, пераходзіць ад аднаго да другога, згадваючы зноў і зноў *тое жыцьцё*. Асабліва памяталася, як радасна прамовіў шафёр таксі, што яго прывёз: «Вось мы і прыехалі. Бадэнскі курорт». Так, найлепшае мейсца для мэдытацыі, падумаў ён тады, — тут ад цябе не чакаюць разумных учынкаў, розум можа адпачыць у размовах з далікатнымі дактарамі.

Ненармальны, сапраўды ненармальны. Пастка, зь якой няма выйсьця.

* * *

Пачуцьцё безнадзейнасьці, але безнадзейнасьці

звыклай і цёплай, агарнула яго, і з таго, што яна гаіла, мелася быць яшчэ больш безнадзейна. Ён спыніўся каля вакна. У цьмянай восеньскай золі ападала лістота, сьцежка гублялася ў лістоце й цемрадзі: было так блізка й так далёка, як Парыж, як Быцьцё, як Вольнасьць. Ён адпрэчыўся гэтых простых жыцьцёвых сьцежак часткова па сваёй, часткова не па сваёй волі. Прырода была адцягненасьцю, сном. Рэальнасьцю было: невялічкі калідор, санітар, палата.

* * *

Ён нерухома стаяў каля вакна, углядаючыся кудысьці праз шкло, кудысьці далёка-далёка. Ён адышоў у глыбіню памяці, да мрояў.

Там быў спакой. Ён ішоў па зімовым лесе, адзін. Пад нагамі прыемна рыпеў сьнег. Сярод белай халоднай чысьціні быў ягоны дом, лёталі белыя птушкі. Сівагракі? Калі гэта яны, трэба ісьці за імі. Празрыстасьць, лёт былі ягонай істотай, але яны былі толькі тут, сярод гэтае мроі, калі ён ішоў немаведама куды. У рэчаіснасьці было колькі крокаў па невялічкім калідоры, да дзьвераў.

* * *

Чалавек адрынуў сябе ад халоднага восеньскага краявіду, павольна зайшоў у палату. Санітар з палёгкай уздыхнуў і адвёў вочы: ня сёньня. Стары й спрактыкаваны, ён не даваў веры павольным крокам і быў упэўнены, што адбудуцца падзеі. Але якія й калі? Гэтага санітар ня ведаў і таму цікаваў з насьцярожанасьцю й увагай. Самае крыўднае было тое, што чалавек нібы й не заўважаў гэтага цікаваньня. Ягоная хада была вольная. Ён быў ня тут.

Чалавек падышоў да свайго ложку, прылёг. Ляжаць яму не хацелася, ён зрабіў гэта амаль што інстынктыўна. Мог зайсьці санітар і сказаць «удзень ляжаць нельга». Але цяпер у палаце нікога не было, усе пайшлі на працатэрапію.

Працатэрапія значыла: усім клеіць капэрцікі.

У прасторным пакоі стаяў пах клею. Хворыя сядзелі за сталамі. У кожнага пэндзалік, слоік з клеем, папера. Усе клеілі капэрцікі, сур’ёзна й засяроджана.

Чалавек быў адмовіўся працаваць. Санітар, ня ведаючы, што рабіць, паклікаў доктарку, але тая адно запісала нешта ў картцы й нічога не сказала. Такім чынам ён займеў дзьве гадзіны вольнага часу, калі ў палаце нікога

няма. Гэта была маленькая перамога, але хворыя глядзелі на яго з прыкрасьцю. Ён быў ня іхны.

* * *

Бралася на зьмярканьне. Пачалі выпаўзаць прусакі, ён быў ужо не адзін. Можна запаліць сьвятло, гэта спалохае іх, але толькі на хвіліну. Яны нутром адчувалі надыход ночы й аніякім штучным сьвятлом іх не падманеш. Была нейкая дзіўная сувязь між паводзінамі прусакоў і навакольнай рэчаіснасьцю: *прусаксфрагэ*.

Чалавек уявіў сабе карціну: куток палаты, частка сьцяны, ложак, закратаванае вакно. За вакном цемра, палата ж асьветленая зыркім сьвятлом. Усё мусіць быць проста, але ў той жа момант моцна й трагічна, як у Ван Гога. Ван Гог ведаў, што гэта такое — вар'ятня.

Чалавек адчуў, што цяпер ён разумее ўсё і ўсё здольны прыняць і пражыць. Гэта было толькі на хвіліну, але што гэта? Што дало яму моц на гэтую хвіліну? Магчыма, вочы Ван Гога з аўтапартрэту, там, дзе ён у адзёжы дзэнскага мніха. Зялёныя вочы. Ён падсьвядома згадаў гэты аўтапартрэт, калі падумаў пра мастака. Нейкае веданьне, нібы маланка, працяла ўсю ягоную істоту, але ад яго засталася толькі памяць. Каб намаляваць карціну, трэба было затрымаць маланку, трэба было проста быць. Дзе ж шукаць сьцяжынак да «проста быць»?

Чалавек ведаў, што ніякіх сьцяжынак шукаць ня трэба, што гэта моўнае ашуканства. Але ў пэўных варунках такога ашуканства было не пазьбегчы. Дый чаму б не сказаць «сьцяжынка», калі ўжо ўсё роўна, як казаць? Дарэчы, можа, гэта ёсьць самае сапраўднае выйсьце да Ван Гога: калі ведаеш, што Слова немагчыма, узяць ды сказаць: *сьцяжынка*. Сказаць проста, услухоўваючыся ў само гучаньне, ня думаючы пра мэтафізычныя складанасьці. Хто ведае, можа, мы навучымся такім чынам без унутранага фальшу казаць слова БОГ?!

Ва ўсіх гэтых думках не было нічога новага, дый справа была не ў навізьне. Наадварот, было цудоўна, што сярод такіх размаітых дэкарацый людзі прыходзяць да агульнага. Дзіўна, спадзявальна — ты сядзіш у вар'ятні, зь якой выбрацца амаль што немагчыма, а хада тваёй думкі такая ж, як у Картасара, які сядзіць у сваёй кватэры ў Парыжы.

Чалавек падняўся з ложку — пачалі вяртацца хворыя. Ён выйшаў на калідор, зноў падышоў да вакна. «Божухна, што здарылася, дзе мы, — падумаў ён, — калі ў

гэтым шукаю спадзяваньне?!»

* * *

Запалілі сьвятло. Нешта зьмянілася ў палаце, зьявілася нейкая цеплыня, спакой. Можа таму, што доктарка пайшла дахаты і застаўся толькі санітар, а можа, з-за блізкай ночы. Хаця гэтай цеплыні зусім не было адкуль узяцца. Шпітальнае сьвятло не лагодзіла, яно было жорсткім і неўтаймаваным, абгастрала і высьвятляла кожную рысу, кожны колер. Нанова праявіліся сьветла-зялёныя колеры сьценаў. Чорныя краты на вакне злучаліся зь цемраю. Жабрацкія ложкі, коўдры і бялізна з шэрымі плямамі — ці то кроў, ці то падаўленыя прусакі — сьвяцілі брудна-белым, нібы заляжалы сьнег на тлустай чорнай зямлі. І ўсё ж цеплыня прабівалася праз усё, яе трэба было не вытлумачваць, а проста прымаць. Але ж як гэта цяжка, не прымаючы жыцьця, прыняць ягоную цеплыню!

Увечары выпадала крыху вольнага часу. Хворыя зьбіраліся ў хол, ім дазвалялася глядзець тэлевізар. Звычайна выносіліся крэслы, адбывалася кароткая спрэчка — што глядзець, — і нарэшце ўсё заціхала.

Чалавек ніколі не выходзіў глядзець тэлевізар. Аднойчы ён пастаяў пяць хвілін і пайшоў. Яму прывярэзілася, што экран — не вакно ў шырокі чалавечы сьвет, а адно вузенькі пераход у другі корпус шпіталю, дзе ўсё такое ж, як і тут. Але сядзець у палаце не дасі рады — тая была побач з холам і гукі тэлевізара чуваць, нават калі пакласьці ваты ў вушы. Тады ён падымаўся і ішоў у канец калідора, да піяніна.

Ніхто ня ведаў, як і калі зьявілася піяніна, з выгляду можна было палічыць, што яно стаіць тут зь мінулага стагодзьдзя. Звычайна ў гэтым канцы зьбіралася братва, і прыгожы хлапец з асіплым голасам найграваў свой няхітры блатны рэпэртуар. Але разпораз сюды падыходзіў і *музыка*. Ён падыходзіў і ўважліва слухаў. Калі скончаліся блатныя песьні і ўсе ішлі ў прыбіральню паліць, ён сядаў, кранаў клавішы тонкімі пальцамі.

Гэта амаль што заўсёды было *cool jazz*, дзіця эўрапейскіх кавярань, далёкі ад чорнай аліўкавай неўтаймаванасьці мурынскіх сьвінгаў. Браліся нейкія ноты — асобныя, разрозьненыя гукі, — і далей гэтыя ноты цягнуліся, існавалі паасобку, спрачаліся, але ў вонкавае суладзьдзе не сыходзіліся. Музыка нібыта казаў: вонкавага суладзьдзя можа і ня быць, звонку ўсё можа выглядаць абсурдам, хаосам, але ж ня трэба губляцца, мусіш заўсёды

глядзець у твар таго, хто грае.

Чалавек стаяў побач і слухаў. У яго было адчуваньне, што музыка грае яму, але ён ня мог зварухнуцца, сказаць слова ці фразу. Калі гэта так, тады музыка быў вышэйшы за яго: ён яшчэ ня здольны зрабіць гэтую мудрасьць сваёй уласнай. Ён мог толькі слухаць яго як настаўніка. А калі гэта адно ўяўлень не і ніякай мудрасьці няма? Усё вельмі проста — трэба паглядзець яму ў вочы, спытаць. Але ж нечага не хапала, штосьці замінала яму гэта зрабіць.

Адчуваньне, што ўсё ёсьць, але нечага няўлоўнага не стае, даводзіла яго да шаленства. Не было нейкага подыху, крохкай і няўцемнай вольнасьці, нематываванага кроку. Трэба было пачаць...

Зноў і зноў падчас калідорнага шпацыру ён прадумваў, раскладваў на элемэнты сваё жыцьцё, знаходзіў паралелі. І чым болей ён гэтым займаўся, тым болей адчуваў, што адыходзіць ад сутнасьці. Нешта падсьвядомае казала аб несапраўднасьці ўсяго. Сканцэнтраваўшыся, ён уцяміў: падчас роздуму ён чамусьці ўяўляў сябе ў вялікай пустой прасторы, дзе ўсе толькі і робяць, як мэдытуюць, практыкуюць прасьвятленьне ці пішуць вершы.

На самой жа справе: невялічкі калідор, санітар, палата. Замкнутыя дзьверы.

Стоячы перад імі, ён пачаў згадваць сваё жыцьцё — дзяцінства, вучоба ў сярэдняй школе, юнацкія адчуваньні пустаты і хаосу. Потым філязофія, паэтычныя спробы, задума рамана. Самота. Божухна, гэта яму толькі мроілася, што ён кудысьці ішоў, — усё жыцьцё ён прастаяў перад гэтымі дзьвярыма і толькі цяпер іх заўважыў. Чалавек здрыгануўся — на сэкунду ён зазірнуў у вочы свайму лёсу. Так, можна было сьпяваць тужлівыя песьні, грукаць, скардзіцца багам, гэта была таксама сапраўднасьць. Але было і іншае выйсьце — пайсьці ўверх. Калі наземны шлях перакрыты, можна ісьці ў іншым вымярэньні, хадой містаў і паэтаў, сьцежкаю, якую ня здольныя перакрыць нават багі!

Стары санітар насьцярожана сачыў за ім. Апошнія тры хвіліны чалавек нерухома стаяў перад дзьвярыма, углядаючыся ў нешта. «Звар’яцеў», — падумаў санітар. Такія выпадкі часьцяком здараліся. Тры дні таму звар’яцеў хлопчык, якога прывезьлі зь вёскі, — там яму чуліся галасы. Прайшоўшы курс інсуліну, запалоханы, ён чамусьці вырашыў, што маці прыехала яго забіраць, але яе тут забілі, — і шукаў яе па ўсіх палатах, гледзячы на ўсіх пакутнымі вачыма. А колькі яшчэ было! Ды стары санітар

даўно засвоіў прафэсійную мудрасьць, безь якой тут немагчыма: не лічыць *гэтых* за людзей. Бо калі на хвіліну ўявіць сабе, што яны людзі, дык узьнікала шмат розных «чаму?» і станавілася неяк трывожна. А санітар любіў прастату і яснасьць.

Новы хворы турбаваў і непакоіў яго. Ён паводзіў сябе неяк падкрэсьлена чуйна і ўважліва, як быццам бы хворым быў ён, санітар. Усё назіраў, нешта думаў, часам занатоўваў у сшытак. Анегды спрабаваў перадаць праз студэнта-практыканта цыдулку сябру, у горад. Той, вядома, перадаў яе доктару. Але што там было!

Замалёўкі шпітальных звычаяў і тыпаў, бальнічныя сьняданкі і вячэры, тэлевізар. Было там і пра яго, санітара. Пры ўсім іншым чалавек пісаў, быццам меў уладу, хаця насамрэч хадзіў па кароткім калідоры і заварочваў перад дзвярыма. А ключы толькі ў яго, санітара. Вось табе і звар’яцеў. Санітар адчуў палёгку.

Тут чалавек азірнуўся. Вочы глядзелі з халоднай пагардай, але і з жалем, *быццам мелі ўладу*.

Чалавек прайшоў у палату, сеў на ложак. Разгарнуўшы сшытак, ён перачытаў запіс, што аднойчы зрабіў яшчэ на волі. Запіс быў ад трэцяй асобы:

«Болей за ўсё на сьвеце шанаваў ён вольнасьць і свой самотны начны шлях. Заўсёды быць здольным усё кінуць і пайсьці ў невядомае...»

Паклікалі на вячэру. Лусты крышлівага батону ды цёплае малако. Усё неяк сьпешліва, трывожна. Мабыць, кухарам трэба хутчэй мыць посуд дый ісьці дадому.

Чалавек зноў падумаў пра шлях уверх. Яму здалося, што гэта пэўная крывадушнасьць.

«У глыбіні душы ён ведаў, што нельга ісьці замежна, бо там нічога няма».

«...таму той, хто ідзе шляхам упартай аскезы бачыць хараство прывабных таямніц хто ідзе шляхам спрадвечных пачуцьцяў бачыць межы чалавечага сьвету параўноўваючы, назаву гэта адзіным выводзячы на сьвет, дам розныя імёны кажучы аб адзіным, уваходзім у патаемнасьць патаемнасьць жа ўтойваецца каля патаемнасьці шмат таямніц каля брамы»

Гэта быў яго ўласны нелітаральны пераклад, які ён быў зрабіў падчас старахіньскіх штудыяў. Першы чжан ён ведаў напамяць: *тао ке тао фэй чхун тао...*

Сьвятло пачало рабіцца цьмяным — трэба ісьці спаць.

«Калі зрабіць што-небудзь нечаканае, — падумаў чалавек, — пасадзяць на інсулін, а калі жыць, абы ціха, — можна й памерці ў гэтым шпіталі».

Ён услухаўся ў сваю думку. Ягоны жах перад інсулінам зьдзівіў нават яго самога.

Чалавек паспрабаваў уявіць сабе, як яго будуць інсулініць. Прыйдзе доктар, скажа, што патрэбны невялічкі курс. Яго перавядуць у інсулінную палату, хворыя пачнуць ставіцца з пашанаю, як да славутага нябожчыка. І вось першы дзень, яго прывязваюць да ложку і даюць дозу. Магчыма, гэта будзе прыемная маладая санітарка з тонкімі белымі рукамі. Ён уявіў гэта, але нават ад самых прыгожых рук мроілася нешта павучынае.

Чалавек зазначыў, што звонку, у горадзе, усё такое ж. У рэшце рэшт цябе прывяжуць да ложку і дадуць дозу. А калі ты ідзеш супраць і гэта заўважылі — лічы сябе мерцьвяком. Адзінае выратаваньне — знайсьці цёмны кут, выпасьці з мэханізму, дзе ты ня хочаш быць шрубікам.

«Трэба спаць,» — стары санітар сказаў гэта ў паветра, але, паколькі на калідоры ён стаяў адзін, «спаць» пэўна тычылася яго. Чалавек павольна падышоў да санітара, паспрабаваў надаць голасу прыемнасьць, спытаў:

— Ці вам не здаецца, што мы і так усе даўно сьпім?

Санітар маўкліва глядзеў на яго. Потым паўтарыў:

— Трэба спаць.

Чалавек павольна зайшоў у палату. Распрануўся, паклаў адзежу на стул, лёг у ложак. «Гісторыя — гэта немарасьць, ад якой я спрабую прачнуцца». Ці заснуць? ... сярод якой я спрабую заснуць. Схавацца, перайсьці ў іншае вымярэньне, уцякчы...

Чалавек заплюшчыў вочы. «Дыхаць павольна і глыбока, удыхаць гаючае малочнае паветра...» Тут ён прахапіўся, сеў на ложку. А што, калі і паветра тут... інсуліннае?

Часам так хочацца ўсё перапісаць як было насамрэч адкінуўшы непатрэбныя самастылізацыі забыўшыся на даўгія й беспасьпяховыя спробы ўціснуць жыцьцё ў тэкст і захаваць адно крыху безнадзейнасьці самотнай безнадзейнасьці калі глядзіш з закратаванага вакна чацьвертага паверху вар’ятні й вакол столькі псыхаў што плакаць хочацца сапраўдных псыхаў гэта табе не выкладчыкі дыямата якіх вы лічылі крыху ненармальнымі

магчыма яны й былі такімі ўсё жыцьцё жыць паводле дыялектычнай лёгікі такое дарма не праходзіць

толькі навошта хлусіць лекарцы пра Янку Карамазава які прыходзіць да цябе ўначы глядзець як яна акуратна запаўняе шпітальны фармуляр сьмяяцца ўяўляючы пэрсанажа Тодара Міхайлавіча ў ролі пэрсанажа гісторыі хваробы ўдалы гіпэртэкст цяпер Янка які сам бачыў ува сьне неапазнаны тэалягічны аб’ект можа ў сваю чаргу папросту прыйсьці як да старой знаёмай да Алены Іванаўны й запытацца ці ўсё ёй тут у шпіталі дазволена і ці каштуе ейны сярэднестатыстычны заробак сьлязінкі невядомага псыха ці часта яна думае пра Бога і што менавіта

але цяпер ты сам у гэтым гіпэртэксьце на правох літары невядома якога альфабэту магчыма ў гэтым і ёсьць штосьці цынічна вясёлае й вельмі мадэрнісцкае але ўрэшце

адно чуць як Сяргей стогне ў суседняй палаце ад канёвай дозы інсуліну й ціха выплёўваць пігулкі (потым ты заплачаш разам з Джэкам Нікалсанам прыгадваючы ягоны цалкам адсутны твар вось мы й палёталі дружа сапраўды one flew east one flew west one flew over the cuckoo’s nest пачынаючы люта ненавідзець сыстэму (ты думаў яе перахітрыць а патрапіў у самае пекла й толькі застаецца як распавядаць лекарцы пра Фройда гледзячы на яе прыгожыя сьцёгны ды перадаваць праз практыкантак цыдулкі ў горад (ідыёт твае мадэрнісцкія тэксты нічым не адрозьніваліся ад трызьненьняў гэтых вар’ятаў што сядзелі побач хаця й былі творамі мастацтва (?!) і што мусілі рабіць няшчасныя практыканткі перавязаныя па вушы клятваю Гіпакрата як не занесьці гэтыя цыдулкі да Алены Іванаўны і потым доўга праглядаць падручнік псыхіятрыі шукаючы адпаведны дыягназ

назад поўны назад і ты гаворыш асьцярожна карэктна падбіраючы словы так гэта была няпраўда няўдалы жарт (ты ўжо дастаткова разумны каб не казаць пра свае мэта-фізычныя матывацыі й мадэрнісцкі досьвед які ты шукаў і Алена Іванаўна з шэрымі мэталёвымі вачыма ласкава не адыходзячы ад агульнапрынятага (між намі псыхамі) тэмбру голаса пытаецца як вы думаеце нармальнаму чалавеку могуць прыйсьці ў галаву гэткія жарты і ты халадзееш разумеючы што гэта й ёсьць сапраўднае гермэнэўтычнае кола ў якое ня трэба шукаць уваходаў і выхадаў папросту таму што ты ўжо знаходзісься ў гэтым коле і цябе ўжо зь яго ня выпусьцяць

і потым перапалоханая Герда й Віктарас М. Шосты

Патрыярх які ўжо прыняў свае дозы інсуліну ў няроўнай барацьбе з сыстэмай і братва выцягвае цывільнае адзеньне (да панядзелка толькі да панядзелка) і вы ловіце таксоўку якое шчасьце гэтыя страшныя зімовыя краявіды і паперка з усімі подпісамі й пячаткамі сапраўдны блянк нічога ня скажаш хіба стыль крыху кафкіянскі што ты сапраўды ляжаў у вар'ятні што яны думалі ты поўны шызафрэнік яшчэ б сябра Ванечкі Карамазава але выпісаны ў якасьці цалкам здаровага

і потым выраз твару Кузьміча старога садыста-адстаўніка гэбісцкага дыспэтчара гістфакаўскага ціхага монстра які прыходзіў на ранку ў трывожныя сны да ўсіх маленькіх (да трэцяга курсу) дзяўчынак вы зноў спазьніліся на лекцыю зайдзіце да мяне калі ты прынёс гэтую паперку ў дэканат так за гэты выраз можна многа аддаць нават джойса паўнда і ўсіх тваіх кітайцаў разам у чым сэнс прыходу Шостага Патрыярха ў далёкую менскую вар'ятню?

**«Этнапаталёгіі» сноў**

*«Прагрэс мкне наперад, а я паціху іду ўбок...»*

А. Клакоцкі

У Архіве Клакоцкага ёсьць невялікі фонд, у якім сабраныя «этнапаталёгіі». Фонд гэты ніколі не карыстаўся асаблівай папулярнасьцю дасьледнікаў, дый супрацоўнікі Архіву ня ставіліся асабліва сур'ёзна да збору сьведчаньняў, які складаецца з трох тэчак ды стосу неразабраных папераў. Падчас пераездаў «этнапаталёгіі» звычайна грузіліся апошнімі альбо нават увогуле забываліся ў якімсьці закутку; тое, што яны дажылі да нашага часу, — чыстая выпадковасьць.

Калі я пачаў сваю працу ў Архіве, я таксама ня надта зацікавіўся гэтымі паперамі: за больш чым стагодзьдзе няспыннае працы тут назьбіралася й не такіх дзівосаў. Зрэшты, сьціплая пасада асыстэнта не вымагала веданьня ўсіх фондаў: дастаткова было арыентавацца ў трох-чатырох найбольш істотных зборах, астатняе, як тут казалі, — справа часу.

Час сапраўды ішоў хутка і праз чатыры гады я захварэў на прафэсійную хваробу супрацоўнікаў АК — я пачаў шукаць адказ на загадку Архіву. Рэч у тым, што, нягледзячы на прыгожа выдадзены Каталёг, дзе расстаўлены ўсе даты й акцэнты, пазначаны ўсе вехі й названыя ўсе фонды, — у паўставаньні Архіву ёсьць нешта незразумелае, альбо, калі хочаце, ненатуральнае.

Архіў быў заснаваны Адамам Клакоцкім напрыканцы мінулага стагодзьдзя; ягонае поўная і праўдзівая назва — *Беларускі Архіў Сноў* альбо, у скарачэньні, БАС. Зрэшты, ані поўнай назвы, ані скарачэньня ніхто не ўжываў, — яшчэ пры жыцьці заснавальніка замацавалася назва *Архіў Клакоцкага*, а пасьля ягонай сьмерці супрацоўнікі пачалі пазьбягаць якіх-колечы публічных спасылак на сны, каб грамадзкасьць не пераблытала іх са шматлікімі складальнікамі гараскопаў альбо соньнікаў. Сама сыстэма Архіву паўстала яшчэ пры Клакоцкім і практычна не мянялася, адзінае што супрацоўнікі ўжывалі розныя скарачэньні й розначытаньні, каб крыху прыхаваць сваё *соннае паходжаньне*. Так, адзінкай уліку ад самага пачатку быў *сон*, але праз скарачэньне с. ён не адрозьніваўся ад *справы*. Хіба адзінае, што вытыркала, дык гэта падзяленьне ўсіх фондаў на «аўтэнтычныя» і «дадатковыя». Няма пра што казаць — «аўтэнтычныя» фонды складаліся з уласна сноў, «дадатковыя» — з рэальных дакумантаў. Дасьледнікі, якія ўжо даўно працавалі ў Архіве, успрымалі гэта як даніну традыцыі, але тыя, хто патрапляў упершыню, са зьдзіўленьнем знаходзілі ў «аўтэнтычных» фондах сны Магдалены Радзівіл альбо сон вядомага паэты Лангабарда, які прысьніў сябе архітэктарам. Зрэшты, там былі й сапраўдныя пэрлы, як невялічкая калекцыя сноў Міцкевіча альбо сон Ластоўскага падчас Парыскай канфэрэнцыі, перад тым, як Антанта прызнала БНР. Я сам на другі год сваёй працы знайшоў сон Оскара Мілаша. Але ў большасьці сны былі не такія істотныя і, да сораму супрацоўнікаў Архіву, часам нават неаўтарызаваныя. Ва ўсім астатнім гэта быў звычайны архіў, з штодзённай, руціннай працай, выконваньнем запытаў, аўтарызацыяй і каталягізацыяй фондаў, мізэрнымі заробкамі супрацоўнікаў і бясконцымі плёткамі ды інтрыгамі.

Такім чынам, я пачаў шукаць адказы на загадку Архіву. Зрэшты, незразумела было, у чым ёсьць сама загадка. Усе адчувалі, што з паўставаньнем Архіву ў рэчаіснасьць прарвалася і замацавалася ў ёй штосьці Іншае і гэтае Іншае цяпер відавочна спала, заціхла, чакаючы свайго часу. «Сны заснулі» — гэты калямбур быў надзвычай папулярным у мясцовых гіраністаў, хаця ў самых прасунутых выклікаў зразумелую трывогу. Бо ў Архіве суіснавалі побач *розум і неразумнае* — гэта неяк муляла і не дазваляла сур’ёзна ставіцца да рэчаіснасьці ўвогуле. Мушу заўважыць, што ў Архіве быў хіба найбольшы працэнт будыстаў.

Які сэнс быў у зьмяшчэньні на адну паверхню, у адну прастору сноў і рэчаіснага? Пра што думаў Клакоцкі, засноўваючы свой Архіў? Было адчуваньне, што праўдзівая мэта, ці мэты, знаходзіцца недзе побач, магчыма, схаваная альбо зашыфраваная ў адным з камэнтароў, прысьнёная ў адным са сноў. Кожны з супрацоўнікаў прайшоў праз гэтыя пошукі, а некаторыя, я ўпэўнены, дасюль лічаць, што ведаюць адгадку (ці загадку).

Звычайна высоўваліся гіпотэзы, самыя розныя. Адна з гіпотэзаў, самая банальная, палягала на тым, што ўвесь Архіў і ёсьць адным вялікім сном Адама Клакоцкага. Яе звычайна прыгадвалі на сяброўскіх вечарынах, звычайна пад самы іхны канец. Зрэшты, гэтую гіпотэзу сур'ёзна ўспрымалі хіба што нэафіты, а старыя супрацоўнікі скарыстоўвалі яе дзеля ахмурэньня маладзенькіх асыстэнтак («не хвалюйцеся, усё гэта вам толькі сьніцца»).

Ключ быў відавочна ў тэкстах (альбо ў снах) самога Клакоцкага, бо толькі яны маглі даць канчатковыя адказы альбо хаця б крыху прасьвятліць сытуацыю, ад цьмянасьці якой даўна стаміліся нават самыя ўпартыя шукальнікі.

У пошуках аўтэнтычных тэкстаў празь нейкі час я і прыйшоў да пяці запыленых скрынак, да «этнапаталёгіяў». Мне пашчасьціла: неразабраны стос папераў належаў самому Клакоцкаму, гэта былі ягоныя камэнтары й вытлумачэньні справаў, а таксама фрагмэнтарныя нататкі, што тычыліся больш адцягненых рэчаў. Але паспрабую пачаць ад самага пачатку — гэта значыць, ад саміх справаў.

Паводле правілаў Архіву, мы ня маем права беспасярэдне цытаваць дакуманты, ня кажучы ўжо пра іхную поўную навуковую публікацыю. Гэтае права мае толькі ўладальнік дакумантаў альбо — у адсутнасьць уладальніка ці ягоных нашчадкаў — чалавек, які перадаў дакуманты ў Архіў. Але супрацоўнікі даўна знайшлі выйсьце з гэтай сытуацыі. Нішто не замінае (а статут Архіва папросту не забараняе гэта) даваць ускоснае апісаньне справы, асабліва калі пры гэтым зьмяніць прозьвішчы, даты і канву падзеяў, пакідаючы, як любіў казаць Клакоцкі, «аголеныя сутнасьці».

* * *

Першая справа *ананімная*, напісаная (ці перапісаная) на бляклай паперы, парэзанай на вялікія аркушы нестандартнага фармату. У ёй распавядаецца пра шляхціца ўчцівага Стэфана Дастаеўскага, апекуна аднаго зь

менскіх манастыроў, асобу ў вышэйшай ступені паважаную ў тагачасным менскім асяродзьдзі. Стэфан выконваў розныя даручэньні вядомых і ўплывовых магнатаў, але ніколі не адмаўляўся прадстаўляць у гродзкім судзе шараговага шляхціца (у кнігах Менскага гродзкага суду захаваліся некаторыя ягоныя справы). Недзе пад канец жыцьця Стэфан Дастаеўскі пачаў весьці дыярыюш, апісваючы цікавыя падзеі й здарэньні, сьведкам якіх ён быў. Напрыканцы нататак падаюцца некаторыя ўрыўкі з дыярыюша, якія тычацца эпізода, што й выклікаў цікавасьць Адама Клакоцкага.

Аднойчы Стэфан Дастаеўскі прысьніў сон. У гэтым сьне ён бегаў п’яны з шабляй па менскіх валох, лаючыся й пагражаючы мяшчанам, мніхам і розным выпадковым людзям. Сон быў надзвычай выразны, прачнуўшыся, Стэфан прыгадаў усё да апошняй драбніцы. Але самае жахлівае было ў адчуваньні немагчымага шчасьця, якое спадарожнічала гэтай прыгодзе. Такога шчасьця Стэфан ніколі ня памятаў ані ў дзяцінстве, ані ў сталасьці, хаця ён намагаўся весьці дабрачыннае жыцьцё і цешыўся той павагай, што спадарожнічала ягонай дабрачыннасьці.

Пасьля гэтага здарэньня жыцьцё Стэфана Дастаеўскага рэзка зьмянілася. Ён вярнуўся ў свой маёнтак у самым глухім закутку Палесься, дзе праводзіў цэлыя дні на самоце, не запрашаючы да сябе нікога. Яго бачылі ў самых розных мейсцах, ён хадзіў па лясох і балотах, выкрыкваючы рэзкія, гартанныя словы на незнаёмай мове. Хадзілі чуткі, што ён пачаў вывучаць Кабалу. Таксама казалі, што ён пачаў прыходзіць у сны мясцовым жыхарам. Яго баяліся й пазьбягалі.

Адам Клакоцкі лічыў, што гэта сапраўды так і што гэта ён пэрыядычна сьніўся свайму далёкаму нашчадку, Ф. М. Достоевскому, які памылкова прыняў яго за чорта. Менавіта пасьля такіх сноў Фёдор Михайлович пісаў гнеўныя словы пра *жидов и полячишек* альбо прымаўся ўважліва вывучаць свой радавод.

## II

Другі сон апісвае незвычайнае здарэньне з рабі N. Аднойчы яму прысьніўся ягоны ненароджаны сын у чорнай скураной куртцы, зь пісталетам. Сын ягоны гучна сьмяяўся, лаяўся матам і друкаваў вершы пад псэўданімам «Аристарх Леденящий». Рабі N. на наступны дзень разьвітаўся са сваякамі, закапаў Тору ў ціхім мейсцы сада

і сышоў. Далейшая гісторыя разгортваецца досыць складана, часам нагадваючы люстэркі й лябірынты *Тысячы й адной начы*: апісваюцца ягоныя падарожжы, сустрэчы й размовы, даўгія дыскусіі з хасыдамі…

На сярэдзіне раптам паўстаюць тэалягічныя пытаньні… На жаль, менавіта гэты рукапіс моцна пацярпеў пры пераездах, і таму мы ня можам дакладна сказаць, чым скончылася гэтая гісторыя…

III

Апошні сон датаваны пачаткам нашага стагодзьдзя. Мітрапаліту Сергію прысьнілася «голая рыба». Як праінтэрпрэтаваць гэты факт і чаму «голая рыба» патрапіла ў фонд этнапаталёгіяў, зразумець цяжка. Яна (рыба) паводзіла сябе так ласкава й так непрыстойна, што стары, паважаны мітрапаліт, які не без самазадаволенасьці (у якой каяўся) аглядаў сваё жыцьцё, ня вытрымаў і зьлёг з сардэчным прыступам. Не давяраючы нікому, ён распавёў свой сон маладому паслушніку, адзінаму чалавеку, да якога меў пэўны давер і відавочную сымпатыю. Паслушніка гэты сон уразіў ня меней чым самога мітрапаліта. Ён доўга спрабаваў зразумець, што значыць «голая рыба», перапытваў Сергія, але той ня мог анічога дадаць.

Трэба сказаць, што паслушнік сапраўды хацеў расшыфраваць сон, але яшчэ болей ён хацеў дапамагчы мітрапаліту, што пачаў згасаць літаральна на вачох. Паслушнік вывучаў розныя тэксты, ад звычайных соньнікаў да працаў Фройда, які тады толькі пачынаў набываць сваю папулярнасьць. Але ўрэшце спыніўся на Сьвятым Аўгустыне. Як мы памятаем, Аўгустын доўга спрабаваў зразумець, дзе мы можам знайсьці ў гэтым сьвеце знакі боскасьці. І пасьля розных развагаў, якія мы прыводзіць ня будзем, ён прыходзіць да высновы: знак боскасьці ў гэтым сьвеце — у паразе чалавечага розуму, у абсурдзе.

Мітрапаліт Сергій памёр у глыбокім душэўным спакоі, зь ціхай і яснай усьмешкай.

* * *

Як мы бачым, усе тры сны маюць відавочны «паталягічны» калярыт.

А цяпер пра нататкі Клакоцкага.

Сам Клакоцкі пакінуў пэўныя фрагмэнтарныя тлумачэньні, зь якіх можна зразумець, што сабраны

матэрыял бачыўся яму як пэўны ўрок ці пэўнае пасланьне, а магчыма, нават падыход да разгадкі некаторых тайнаў, што так хвалявалі яго ўсё ягонае жыцьцё.

Пасьля ўважлівага прачытаньня я пераканаўся, што нататкі Клакоцкага апярэджвалі сваю эпоху і былі ў пэўным сэнсе адказам на шматлікія рэдукцыяніcцкія ініцыятывы...

Паводле формы, тэксты Клакоцкага — гэта фрагмэнты спантанных роздумаў, часам нават асобныя сказы, якія відавочна былі інсьпіраваныя этнапаталёгіямі. Гэтыя нататкі згрупаваныя ў дзьве тэмы.

Першая з гэтых тэмаў — тэма паверхні. Мы жывем на паверхні саміх сябе, успрымаем паверхню рэчаў, падзеяў, і ў гэтым няма анічога дзіўнага. Бо наступны крок думкі палягае на тым, што за паверхняй пачынаецца доўгачаканая глыбіня, варта праламіць паверхню й мы абавязкова знойдзем сябе ў нечым абсалютна іншым: фантастычным, прыемным альбо, наадварот, жахлівым. Адным словам, мы знойдзем сябе ў *unheimliche*. З нататак Клакоцкага зразумела, што ён трымаўся больш пэсымістычнага пагляду. Глыбіня, лічыў Клакоцкі, зусім не абавязковая. Трэба адразу сказаць, што Клакоцкі, насуперак прыхільнасьцям сваёй эпохі, ня верыў ані ў глыбіні, ані ва ўнівэрсальнасьць, ані ў агульначалавечыя праўды. Ён настойваў, што любое падваеньне сьвету — на глыбіні й паверхні, праўды й няпраўды, сутнасьці й вонкавасьці — непатрэбная даніна маніхейскім ілюзіям, і за адной паверхняй папросту пачынаецца другая, за другой трэцяя і гэтак далей: уся вычварнасьць гэтай думкі не адмяняе саму магчымасьць. Ёсьць толькі ўнікальнасьць, і ўсялякая спасылка на ўнівэрсальную праўду — гэта апэляцыя да паверхні абжытай і знаёмай, альбо, як ён яшчэ пісаў, — *да знаёмага твару*. Праўдзівае пытаньне, якое Клакоцкі задаваў самому сабе ў сваіх нататках, — што ж нам рабіць з гэтымі бясконцымі паверхнямі і ці ёсьць нейкі сэнс альбо сыстэма ў іхным чаргаваньні.

Другая тэма — уласна «этнапаталёгіі». Трэба адразу сказаць, што ў выбары слова няма аніякай пагарды, нават скепсісу, што да этнаграфічных захапленьняў ягонай эпохі. Клакоцкі сам прымаў удзел у большасьці «этнапаталягічных» праектаў свайго часу, а пад канец жыцьця слоўца «этнапаталёгія» сталася ў яго ўлюбёным тэрмінам, які ён ужываў зь відавочнай асалодай.

Зрэшты, мушу сказаць, што пад «этнапаталёгіямі» Клакоцкі разумеў пэўныя этнічныя скрыўленьні, узаема-

пранікненьні і ўзаемазамены — адным словам, пэўную крывізну, «няправільнасьць» мясцовай этнічнай прасторы. У гэтай частцы сьвету (у тэкстах Клакоцкі называў яе заўсёды Паўночнай Сарматыяй, але ў прыватных гутарках — Вялікім Шпіталем) няма нічога назаўсёды вызначанага: лёгшы спаць балтам, ты прачынаесься славянінам, выйшаўшы з дому палякам, вяртаесься немцам, з усіх бакоў цябе спрабуюць пераканаць, кім ты ёсьць і кім ты быць ня мусіш. Натуральна, што большасьць людзей здаровага клёку ад гэтага гармідару называе сябе «тутэйшымі». Клакоцкі, які цягам свайго жыцьця аддаў даніну польскім, літоўскім і жмудзінскім захапленьням і які ўрэшце спыніўся на беларушчыне, хацеў крыху зьмяніць пэрспэктыву: ён хацеў быць адразу ўсімі. «Пяць маіх твараў, як пяць люстэркаў, глядзяць у сьвет і ня бачаць...»

Але што значыць *быць усімі*?! Альбо ўсім. Як мы памятаем, толькі Бог *ёсьць усім*. Ці ня значыць гэта, што *Адам Клакоцкі* хацеў стаць Богам?

Мушу сказаць, гіпотэза, што Адам Клакоцкі — гэта насамрэч адно зь імёнаў Бога, таксама абмяркоўвалася, хаця, па зразумелых прычынах, без асаблівага імпэту...

* * *

А цяпер пра галоўнае — пра загадку Архіву. Чаму менавіта сны былі выбраныя з патэнцыйна бязьмежнай разнастайнасьці фактаў чалавечае сьведамасьці? На адным з нумараваных аркушаў рукой Адама Клакоцкага выведзены сказ, надзвычай характэрны для тутэйшай мэнтальнасьці (я мяркую, ён належыць яму самому), які ўсё ставіць на сваё мейсца: «Тое, чаго няма, кранае мяне сваёй далікатнай адсутнасьцю».

***Энцыкляпэдыя для героя:***

***дзяцінства***

Ён памятаў: яму сьнілася дзяцінства, такое знаёмае, прапахлае разваранай бульбай і нямоўкнай гаворкай радыё. Была цішыня цёплага летняга вечара, ён ішоў па незнаёмай вуліцы куды вялі ногі. Ён ішоў з «гарэлага балота», так звалася сьметня, куды звозілі мэталёвае ламачча з усяго гораду. Старэйшыя хлапчукі часьцяком наведваліся туды і прыносілі прыгожыя падшыпнікі, якія потым зваліся «цокамі». Сёньня ён пайшоў туды з старэйшымі, але заблукаў сярод сьметні і ўшчэнт запэцкаў кашулю. Затое набраў падшыпнікаў, вельмі прыгожых. Асабліва калі адмыць іх ад мазуту. Ён выцягнуў

падшыпнікі з кішэні, паклаў на асфальт, паспрабаваў адмыць іх у невялікай калюжыне. Паспрабаваў таксама пачысьціць кашулю, але мазут толькі расплыўся вялікаю плямай. Ён спрабаваў зноў і зноў, але нічога не атрымоўвалася, мусіць, мазут застанецца назаўсёды. Гэта было вельмі блага — як ён пойдзе цяпер дадому?

Ён бадзяўся па вуліцах, ня ведаючы, што рабіць.

Дахаты ісьці не хацелася, там будзе лямант і плач і ўсё іншае. Падшыпнікі ўжо ня цешылі, па вуліцы зь імі было нязручна ісьці, ён паклаў іх на ходнік і пакрочыў далей. Надыходзілі прыцемкі, пачалі запальвацца ліхтары, ён прысьпешыў хаду. Трэба было да зьмярканьня патрапіць у парк, там ён будзе цяпер жыць, так ён вырашыў.

* * *

Мы мусім быць там, дзе мы знаходзім сябе сёньня, — падумаў ён, прачнуўшыся, — на ханскім піры, на зыходзе другога тысячагодзьдзя ад нараджэньня аднаго самотнага ўтапісты. А потым яшчэ: нідзе нічога не адбываецца.

Ён сядзеў у невялічкім калідоры хімкорпусу, паліў. Ішоў 1984 год. Учора Віктарас М. вынайшаў самае кароткае азначэньне дыямату: *жывы труп*. Так, усё праўда, вось ужо трэці год ён сядзеў у трупярні, дзе гэты труп ціха распадаўся на катэгорыі, паняткі, тэмы і праблемы. Кожны мог выбраць штосьці сабе, на ўсё далейшае жыцьцё. У ціхім філязофскім тупічку.

Ён чакаў Герду, яна спазьнялася, як заўсёды, ён выцягнуў нататнік і пачаў пісаць ашалелым рытмам, амаль бяз паўзаў. Словы клаліся навосьлеп, чорныя, сьляпыя словы суму.

Дзе ж Герда?

Учора яны блукалі пад дажджом, увесь вечар, зазіраючы ў вокны, размаўляючы пра восень, пра дождж, пра дзяцінства. Ёй бы не спадабаліся ягоныя змрочныя трызьненьні, ён ведаў гэта дакладна. Яна была, нібы вада, хуткая і плястычная, магла цекчы ў якой-колечы прасторы, абмінаючы, ветла і незаўважна, усіх мерцьвякоў сьвету.

Потым, у пакойчыку, ён пацалаваў яе ў вусны, упершыню. Адчуў цёплы спакой яе цела, белыя пагоркі грудзёў.

Седзячы тут, на калідоры, ён ужо амаль ня верыў, што гэта было насамрэч, што гэта магчыма.

Ён падняўся і пайшоў па калідоры пагледзець расклад заняткаў. Лекцыя пра спадара Дэкарта. Можа,

варта й паслухаць.

Учора ён слухаў простыя словы пра дзяцінства ў маленькім мястэчку, пра тое, як увосень пачынаюць сьвяціцца зіхоткім сьвятлом дрэвы ў прысадах, як сьпявае па начох вецер.

Дзіўным чынам ён адчуў, што гэта магло б быць мэтай: спакваля, асьцярожна выгадаваць у душы вецер, восень, прысады, просты самотны шпацыр у абляцелым парку. А потым разуменьне: Герда жыла там, а ён гэта прыдумваў. Адно прыдумваў.

**Café «У Топія»**

I

Як і ўсе іншыя кавярні, якія я сьніў, гэтая пачыналася з даўгога калідору, абарванага ў нішто, і з гэтага нішто спакваля, праз шэрае рэчыва сну, пачыналі праступаць абрысы. Зь цьмянае невыразнасьці ўзьнікалі сьцены, зь ледзь бачнага хваляваньня паветра нараджаліся столікі, крэслы. Потым падрабязнасьці: смарагдавы колер цяжкіх, глуха захінутых фіранак, затанулая субмарына ў зялёна-атрутных водарасьцях на карціне над стойкай бара, хваравітыя шэпты, далёкія галасы. Сярод усіх гэтых дэкарацыяў сапраўды рэальнымі выглядаюць толькі сьцены: ад іх патыхае жахлівым холадам, як быццам па-за імі — вечная зіма.

Усё гэта апаноўвае маю сьвядомасьць, беручы ў аблогу памяць і жаданьні, паралізуючы волю, зьнішчаючы ўсялякі ўспамін пра магчымасьць яшчэ нечага іншага, як гэта часьцяком здараецца менавіта ў сьне — недзе там, далёка... Дзе гэта — там?

Але варта аднекуль зьявіцца лёгкаму, цёпламу, паўднёваму ветрыку — і ўсё павольна пачынае мяняцца: праз колькі часу я са зьдзіўленьнем знаходжу сябе сярод югендстылю, у прасторным, прэстыжным «*Cafe New York*», дзе цьмяныя турэцкія

ўплывы амаль распусьціліся сярод пампэзнае Венскае сэцэсіі, крыху разбаўленыя румынскім фальклёрам. Ёзэф Аціла (я чамусьці ведаю, што Ёзэф гэта прозьвішча, а імя менавіта Аціла) распавядае сумную гісторыю пра тое, што праз колькі часу гэтая кавярня будзе звацца «Будапэшт». Натуральна, ніхто гэтаму ня верыць, усе сьмяюцца, я запрашаю ўсіх у «Зялёны штраль» на келішак «бэнэдыктына». Замест гэтага мы ўсе чамусьці трапляем у невялічкую кавярню ў адным паўднёвабеларускім горадзе, што месьціцца ў гроце на беразе Сожа, на ўскраіне старога

парку. Я закідаю ў музычны аўтамат савецкі пятачок і Марыля Радовіч пачынае сваю надрыўную песьню пра «каляровэ ярмаркі».

II

Ці гэта адно сон? А насамрэч усяго гэтага проста няма й, паводле дзіўнай лёгікі каляровых галюцынацыяў, праз хвіліну я ўбачу побач з сабою твар Апапеіча, уніфікатара й атэізатара нашых сьціплых студэнцкіх мазгоў? Але гэта немагчыма й ня можа быць, бо гэта значыла б, што ўсё, чым я ёсьць, — плыткі й нетрывалы фантом, а ёсьць толькі ён і цяпер вось даходзіць да самых глыбіняў майго сну (калі гэта сон).

...Цень гэты, які прывідам прайшоў праз маю сьвядомасьць, плішчыўся калісьці ва ўсе каморкі майго жыцьця, а цяпер я бачу, што ён дабіраецца й да маіх сноў. Так, гэта ягоны твар. Ён павольна праступае зь цемры, акрэсьлены шэрай пацуковай вастрынёй. Ах, гэты нястомны шукальнік дысыдэнтаў! Зразумела, мы думалі ня так, як ён. Але тут ён на чужой зямлі: сярод мрояў, няўцямных трызьненьняў, сярод сноў — сярод каляровага ілюзыёну згубленага аднойчы пакаленьня — пакаленьня нянавісьці, пакаленьня няспраўджанае любові.

Так, мы ўмелі ненавідзець. Мы авалодалі гэтым мастацтвам дасканала. Усяго толькі пару словаў, нават не словаў, не — усяго толькі адзін халодны, пагардлівы позірк — і іх трэсла, ванітавала, перакручвала, карцела пісаць дакладныя. Але што можна зрабіць супроць нянавісьці? Адно ненавідзець у адказ. І мы прымалі гэтую зваротную нянавісьць як кшталт сапраўднасьці, як дасканалы знак нашае праўды.

І ўсё ж такі нянавісьць — гэта залежнасьць і няволя. Залежнасьць ад таго, што ты ненавідзіш. Гэты крок мысьленьня кінуў нас далёка наперад, ці, лепей сказаць, вывеў нас з абсурдных апазыцыяў у сфэру вольнасьці... у залатыя сны...

* * *

Але што можа сказаць Шосты Патрыярх чалавеку, якому няма куды прыйсьці?

* * *

І вось гэтая кавярня. Маё прыватнае мейсца на

Шырокім Менскім Прашпэкце ў Нікуды. Нэўтральная тэрыторыя, дзе можна паліць цыгарэту й думаць пра сваё. Сапраўды: пра *сваё*. Хаця што мы маглі лічыць сваім у гэтым сьвеце? Боль? Нянавісьць?

Але ж гэта іхная тэрыторыя. Выдавала на тое, што адзіна магчымае выйсьце было ў маўклівай салідарнасьці: кавярня, кубачак кавы. Тайніца чалавечага твару, ціхая ўлада магчымасьцяў. Цішыня рэчаў. Гэта не было домам, не было прытулкам. Даўна прамоўлена — наш дом унутры нас. Але ж і ўнутры мы не пачувалі сябе гаспадарамі. Мы хацелі любіць, а вымушаныя былі ненавідзець, мы прагнулі радасьці, нам вярталі боль. Мы былі выгнанцамі й шукалі свой дом у бяздомнасьці. Адно гэтыя сны, залатыя мроі...

Адно гэтая кавярня. Штоночы зь дзіўнай наканаванасьцю яна поўніцца прывідамі. Штоночы тут адбываецца кававая цырымонія. Штоночы сюды прыходзяць і сыходзяць людзі. Тут спраўджваюцца няспраўджаныя памкненьні, тут ткуцца вялёны шчасьця. Усе мы тут — пэрсанажы ў чаканьні Аўтара. Аўтар заснуў, ня трэба яго будзіць. Значыцца, мы ўначы? Сярод уцёкаў?

* * *

Пайсьці самотнаю сьцежкай — туды, дзе вечная восень рассыпаных хрызантэмаў...

III

Я сядзеў і чакаў Шостага Патрыярха аднаго са шматлікіх сярэднеэўрапейскіх адгалінаваньняў школы чань, Віктараса М. Субмарына ціха варушылася сярод водарасьцяў, стыла кава. І якраз у гэты момант увайшла здань самотнага манаграфісты

Фінегана Зялёнага. Ейныя рухі былі дакладныя, вочы блішчэлі. Сьвет разьлягаўся перад ёй у няпэўную колькасьць аб'ектаў, якія зь неабходнасьцю пераўтвараліся ў прадметы досьледу.

Маё левае абсечанае вуха заняло пачэснае мейсца перад яе пытлівым розумам.

— Брат Тэа, — закрычаў я, — tu viens chez moi, et je me reveille...

— Плятон любіў каву, — сказаў я ёй. — Я хацеў бы напісаць пра гэта манаграфію. Падрабязна рэканструяваць цырыманіял паводле старагрэцкіх крыніцаў. Ці будзеце Вы рэцэнзэнтам?

— Гэтае вуха, — сказаў я ёй, — ёсьць сымболем

абсечанасьці Вашага жыцьця. А Вы пра гэта нават ня ведаеце. Больш за тое, Вы ня ведаеце нават пра тое, што Вы пра гэта ня ведаеце.

— Рэчы, — сказаў я ёй, — аніколі ня ёсьць чыстымі аб'ектамі веды, яны проста ЁСЬЦЬ. Мусім гэта прыняць як дадзенасьць і не рабіць непатрэбных варушэньняў.

— You are crazy guy, — закрычаў я нарэшце, — I like you, and your own way of life, really.

* * *

Ах, Шосты Патрыярх школы чань. Ён заўсёды спазьняўся, сядаў у куток, да кружэлак, пачынаў ад Малера й сканчаў шалёна-халодным джазам трох віленскіх гэбраяў. Ён заўсёды быў ня тут і ўрэшце заўсёды зьяжджаў у свае віленскія лябірынты, пакідаючы нас на гэтым жахлівым мэтафізычным скразьняку, што завецца Менскам, дзе немагчыма за нешта зачапіцца, дзе цябе зьдзьмувае проймай, дзе не ратуюць рытуалы, а калі ты аднойчы наважысься паверыць, што сапраўды існуеш — дык аднойчы знойдзеш сябе «ў кніжцы бяз вокладкі і без апошніх старонак, дзе вы, адмыслоўцы шалёнага часу, жылі».

А потым ты аднойчы прачнесься сярод утопіі, што завецца Беларусяй, і зразумееш, што ў гэтым сьвеце толькі засынаць можна ўсім разам, а прачынацца — адно паасобку. Калектыўнага выратаваньня не існуе.

IIIa

— Ведаеш, як гэта адбываецца. Маленькае шкельца, нябачны крышталік лёду. Табе чатырнаццаць, ты толькі зьбіраесься ўдыхнуць напоўніцу гэтае паветра. Гэтую атрутную, жахлівую магму чалавечага жыцьця. І тут — Кай глыбока ўздыхнуў і пераўладкаваўся ў старой абшарпанай фатэлі, шукаючы гармонію між сваім целам і гэтым апрацаваным кавалкам дрэва, — і тут у адным з кінатэатраў, на позьнім сэансе, «Салярыс». Вядома, сьмерць асьцярожна зазірнула з-за экрана ў тваю душу...

І далей, паранены вечнасьцю, ты ўсё жыцьцё грукаеш у сьляпую сьцяну часу.

IV

Не азірайся, хлопча Што там, за сьпінаю?

Купалінка, МакДоналдз, Самота, Альба?
Ты ідзеш па адпаліраваных прыступках гарадзкога раю
Жалейка сіпла гучыць
выплятае
цёплыя гукі
Не азірайся

V

А вось і Акадэмік. Ён сёньня птушка — ён на гэта заслужыў.

Усё сваё жыцьцё ён быў падобны да даўгалыгага, разумнага бусла, які прызвычаіўся хадзіць па зямлі, грунтоўна рыхтуючы свае будучыя ўцёкі ў неба. Гэтыя ўцёкі плянаваліся й абвяшчаліся штогод у адным з выдавецтваў, але абставіны складваліся такім чынам, што не дазвалялі непасрэднага ўзьнясеньня.

Я ветла ўсьміхнуўся яму абсечаным вухам.

— Вы сёньня Ван Гог, — сказаў ён з высокім, ледзь заўважным сарказмам.

— Гэта неістотна, — перарваў я, — я напісаў Вам ліста, з усёй бязьлітаснасьцю маладосьці, я напісаў Вам пра Неба. Праўда ня можа быць падрыхтавана, яна ня можа рыхтавацца гадамі, тым больш стагодзьдзямі. Вы мусіце адчуць гэты пах, ён у паветры, яго хопіць на ўсіх.

— Наш друг Гайдэгер, — сказаў я яму, — Ваш былы студэнт, перадае Вам прывітаньне. Ён узначаліў аддзел супраціву, на Шварцвальдшчыне, змагаецца за вызваленьне мовы на больш пракаветную прастору...

* * *

Усялякая цырымонія нараджаецца з прастаты, усялякая да яе прыходзіць. «Ускіпяціце ваду, пейце гарбату», — апісваў напрыканцы жыцьця гарбатавы цырыманіял Рэкю, дзэнскі майстра. Але здараліся часы, калі нават за высакародную прастату мусіў плаціць пэўнай колькасьцю жыцьцёвых згодаў і кампрамісаў. У такія часы я не цураўся складанага.

Нягледзячы на тое, што ўсё ніжэйпададзенае — рэальнае апісаньне сапраўдных падзеяў, якія адбываліся на ўсім добра вядомых пляцоўках нашага КАХАНАГА ГОРАДУ, усе пэрсанажы, як гэта ім і трэба, — прыдуманыя. Тым ня менш, усялякае падабенства да ўяўных ці рэальных асобаў, усялякае супадзеньне імёнаў, прозьвішчаў, датаў і нават

знакаў прыпынку — невыпадковае.

(словы, што мусілі патрапіць напачатак аднаго зь ненапісаных раманаў, але так і не патрапілі, невядома зь якіх прычынаў)

VI

Я сядзеў і чакаў Герду. Яна спазьнялася, як заўсёды, як усе спазьняюцца ў гэтай шалёнай гісторыі. Я сядзеў і думаў пра тое, што адмысловыя стасункі з часам даюць нам нарэшце нейкія зьвесткі пра сьвядомасьць Аўтара, якога пакуль ніхто ня бачыў. Спазьніцца — значыць прыйсьці кудысьці, але ня ў час. Ня ў час — гэта значыць, што часу ўжо няма. Што ж застаецца, калі ўжо няма часу?

Я чакаў Герду. Я ведаў, яна так ніколі й не патрапіць прыйсьці ўчас. Яна была чужая ў гэтым горадзе, вулкі якога не трываюць асьцярожных, мяккіх, упэўненых крокаў, які патрабуе непрысутнасьці, у якім добра жывецца адно прывідам. Яна была жывая.

VII

Сон: рыба на апаленым сонцам жвіры. Не трапеча, ляжыць маўкліва, вада адыходзіць усё далей ды далей. Вочы зь невымоўнай пяшчотай глядзяць у маю душу. Тут я згадваю: рыбы ня мовяць.

VIIa

«Сьвятло спытала ў Нябыту: Ці ёсьць Вы, Настаўнік? Можа, Вас няма? І, не пачуўшы адказу, пачало ўглядацца ў ягоную паставу. Абрысы: нешта цёмнае, пустое; хоць увесь дзень углядайся — ня ўгледзіш; слухай — не пачуеш; дакранайся — не дакранесься. — Што ж гэта за дасканаласьць! — закрычала Сьвятло. — Ці здольны хто-колечы яшчэ на гэта? Я магу адно прысутнічаць ці адсутнічаць, ды зусім ня быць не магу. Я дайшло толькі да адсутнасьці — як жа стацца такім, як Вы?!»

там была твая сьмерць а ты спадзяваўся скончыць гэтае падарожжа ўрачыста пад гукі жалобнага сьпеву а ён спадзяваўся перайсьці на другі бераг і застацца а яны думалі пазьбегнуць а нехта... але штосьці іншае глядзела цяпер з-за прычыненых зьнянацку дзьвераў па мерцы

кожнага зь іх і па тваёй таксама кожны плыў да берага але ўладная плынь зносіла й запавольвала жаданы фінал магчыма тое што яны сустрэлі было фіналам канцом а для некага пачаткам іншай дарогі але ўсё вынікала з таго дзе ты прыстаў і ты спадзяваўся верыў у непазьбежнасьць у вырок у лёс у тое што твой човен што ішоў увесь час супроць плыні сярод мерцьвякоў ледзь варушачых губамі каб сказаць тое што кажуць усе што даўна ўжо сказалі і немагчымасьць быць тут адно спадзявацца на фінал на магчымае ўцелясьненьне ў іншым часе сярод іншых дэкарацыяў што там казаў Плятон але гэтая рака несла твае старонкі на якіх палымнеў адчай пра душу а ты спадзяваўся згадаць вечнае ды згадваліся твары а потым дарагія твары што былі поруч цагляныя камяніцы сярод якіх а потым зноў адчай і хвіліны суладзьдзя ў якія ты быў нечым большым чым проста жыцьцё чалавека ах так Плятон: душа несьмяротная

VIII

Ах Віктарас М., Шосты Патрыярх, аматар Камю й футболу, сябра Гайдэгера, настаўнік Дайсэцу Судзукі й Вадзіма Д., бязьлітасны крытык дыямату, які ты лічыў жывым трупам! Твае доўгія ногі вытыркаліся з кудаба калгаснага трактара, калі ты адважыўся на доўгае паломніцтва, уцякаючы ад савецкага войска на аддзяленьне філязофіі, вымушаны патрапіць на бульбу! Ты быў фрагмэнтам іншага сьвету сярод аднастайнае нямоты аднолькавае цяпершчыны. Ты быў прыдуманы намі, ад пачатку й да канца, ва ўсіх дэталях і падрабязнасьцях, разам з тваім славутым падарожжам на Ўсход (у чым сутнасьць прыходу Шостага Патрыярха?), разам з тваім даўгім дзэнскім дубцом, які ты зазвычай выцягваў а палове на другую ночы, пасьля трэцяй пляшкі армянскага каньку (твая першая пляшачка была сапраўдным саторы, калі ты яе выцягнуў сярод вуліцы беларускай вёскі, зьнянацку, на першай бульбе) — і пачынаў змагацца з двойчасьцю сьвету, зь бінарнымі апазыцыямі і з пэрманэнтнай адсутнасьцю грошай.

* * *

Пра сябе: ён жыў у едкім і цягучым вымярэньні нязгаснага болю й пісаў доўгія, як восень, дзэн-сказы, што цёплаю хваляй накатываліся на сэрца, спакушалі нядвойчасьцю й узьяднаньнем, казалі як быццам нічога і

ўсё ж зашмат ды ўрэшце пакідалі там, дзе ты ёсьць: сярод нязбытнага фарсу, у каморы, на Сьвятой Зямлі.

* * *

Ах, Віктарас М., ты ведаў гэта напэўна. Усе мы пэрсанажы недапісанага раману, але ж хто Аўтар? Зноў і зноў гэтае адчуваньне: мы патрапілі ў лябірынт, нехта гэта заве сьветам, нехта хаваецца ад яго, хтосьці — ад самога сябе, напачатку паволі, потым хутчэй.

Прамінулыя гады падарылі яму сумны досьвед: у гэтым лябірынце ўсё роўна анічога ня знойдзеш. Магчыма, анічога проста няма, а магчыма, ёсьць, але недзе далёка. Так што можна й не шукаць, а папросту ведаць, што нешта недзе ёсьць, і жыць з гэтым веданьнем, у салодкім самазабыцьці... сьвету.

Бо нават калі й пачынаеш нешта шукаць, кудысьціісьці — усё заблытваецца. Па-першае, немагчыма сфармуляваць, *што шукаецца.* І што *хоча знайсьціся.* Немагчыма гэта назваць. Бог, Быцьцё, сэрца сьвету — усе гэтыя словы маюць доўгую гісторыю, на якую яны самі ўжо прагнуць забыцца. А не забываецца. Па-другое (і памяць, паслужліва запабягаючы, сьведчыць) — каб знайсьці тое, што немагчыма назваць, трэба зьмяніцца самому — а значыць памерці. А каму хочацца паміраць дачасна?

Магчыма, аднекуль, зь нейкай дзіўнай, уфундаванай у сапраўдным быцьці прасторы, усё гэта бачылася б інакш. Тое, што мы тут завем безнадзейнасьцю, там завецца каханьнем, а мае абрыдлыя бадзяньні па прасторы сваіх і чужых тэкстаў там кладуцца непахісным кірункам: у неба. Напрасткі. Хто глядзіць на нас, каму мы цікавыя? Анёлы, дэманы?

У павуце вулак і словы, да агіды знаёмыя, прымушаюць разам з усімі забыцца й прымаць усё як ёсьць і нават не чакаць, а толькі заходзіцца часам слабымі рэфлекторнымі рухамі. Словы, што ўсё блытаюць.

Дык дзе ты, сьвятая зямля? Хіба толькі там цяпер ноч і ўсе папросту леглі спаць: і Буда, і Заратуштра, і Ісус. А мы тут, пэрсанажы абсурднага раману, навобмацак шукаем тое, што даўна ёсьць і вядома, і непераможна?

* * *

Рэч вось у чым: cogito, якое задае гэтыя пытаньні, ня мае надзейнае ніці, каб выбрацца з лябірынту. Мы можам дэкляраваць умовы магчымасьці веды, але ці ня будзе гэта

адно маленькім свойскім лябірынтам у лябірынце вялікім. Пытаньне ня ў тым, ці дагоніць Ахіл чарапаху, а ў тым, хто мы — Ахіл ці той, хто глядзіць на Ахіла. Ахіл не пытае сябе, ці дагоніць ён чарапаху, ён проста бяжыць. І, магчыма, у іншым кірунку.

X

— Ты недасканала цалуесься, — сказала яна й засьмяялася свайму нахабству, — хто цябе вучыў?

Я не хацеў памятаць ейнага імя, я зваў яе Гердай, гэта пасавала да яе зграбнае паставы, калі яна стаяла за стойкай бара ў «Хвілінцы», невялічкім бістро, разьмешчаным дакладна на сярэдзіне Доўгага Менскага Прашпэкту ў Нікуды. Мы прыходзілі сюды ледзь не штодня, шукаючы паратунку пасьля зануднага філязофскага тупічку на сёмым паверсе хімкорпусу. Яна падавала нам кубачкі, і мы разумелі: кава ня ёсьць проста кавай, рэч ня ёсьць проста рэччу.

Яна была бізантыйкай, істотай з далёкай краіны Ўільяма Батлера Ейтса, так мы вырашылі аднойчы.

* * *

— Гэта зусім нескладана, — яна прамовіла бадзёра й неяк адчайна, ускінуўшы галаву, як быццамзьбіралася ўзьляцець, і пацалавала мяне ў вусны, сярод вуліцы, аднекуль з вышыні.

— Я не змагу цябе ўратаваць, — сказала яна. — Ты шукаеш занадта шмат, Дыятыму й Арыядну адначасова. Так не бывае.

* * *

Я ведаю, я хацеў зашмат. Я ведаю, так будзе заўсёды.

Ейныя рукі ўзьнесьліся ў неба, адчайна, у раптоўным гэсьце. Рух гэты стагодзьдзямі спаў у глыбінях і цяпер, прарваўшыся на паверхню, ня мусіў спыняцца, але... яна ўжо была згубіла сябе ў гэтым руху, амаль што патанула на дно свайго адчайнага памкненьня і, каб затрымацца (альбо ўзяць з сабой), яе рукі, як выратаваньне, абвілі шыі двух мужчынаў, што сядзелі побач.

Двое мужчынаў, аднолькава жаданых, хаця й па-рознаму, у розныя часы і ў розных абставінах, асьцярожна прачнуліся (?) — ці наадварот — асьцярожна

ўступілі на тэрыторыю гэтага сну, гэтага самазабыцьця, знайшлі сябе разам, побач зь ёй і прынялі гэта так, як мы звычайна прымаем сны — з засяроджанай удзячнасьцю і адначасова з прыкра-салодкім шкадаваньнем, што ўсяго гэтага няма наяве.

Рэчаіснасьць, ява, паверхня жыцьця, на якой яны так упэўнена існавалі, ціха праламілася, і праз гэтую прабоіну пачаў сачыцца атрутны сон, сплятаючы целы й думкі ў нешта адзінае, у якім кожнага паасобку ўжо не было, у якім кожны паасобку быў недарэчы — у нешта адзінае, што ўжо не было простай сумай трох целаў ці трох душаў — але лёгкім, эфірным рэчывам, празь якое быў бачны (каму?) — альбо яўлены (кім?) — твар Бога (багоў?!).

* * *

Якія багі явіліся тае начы?

Лёгкае, эфірнае рэчыва, і вось яны крыху ўзьнімаюцца па-над зямлёй, недастаткова высока, каб загінуць, каб быць сплеценымі/спаленымі, як Ікар, каб назаўсёды застацца ў гэтым тройчым сьне (калі гэта быў сон) — і ў той жа час недастаткова нізка, каб на ўсё забыцца.

У нейкім адценьні сну (палёту?!) яны прачнуліся з адчуваньнем ціхага шчасьця і сышлі, кожны ў свой бок, распаліся зноў на аскепкі трох самотаў, ведаючы, што гэтая прабоіна назаўсёды застанецца ў памяці, як незагойны пралом, — праз памяць — у вышыню, у надзем’е.

* * *

Гэты сон я ўбачыў у выпадковую хвіліну халоднае явы, калі ўсе пачуцьці абгостраныя і пункт замярзаньня арганічна пераходзіць у кропку кіпеньня, мінаючы ўсе прамежкавыя стадыі, далей у безнадзейнасьць, у экстатычную безнадзейнасьць тысячы магчымасьцяў боскай адсутнасьці, калі тысячарукі Шыва п’е кока-колу ў МакДоналдзе, і ў гэты час нешта жахлівае падымаецца з глыбіняў памяці, жахліва прыгожае, як вечны сон, твар Бога, каханьне.

**Стары сябра з Захаду**

Ён увайшоў нечакана, мы не пасьпелі падрыхтавацца. На дошцы засталася рэшта нясьцёртых гіерогліфаў, назва верша — «Стары сябра з Захаду». Я прапанаваў яму гарбаты — у нас яшчэ заставаліся рэшткі язьмінавай гарбаты.

Тонкія рысы твару раптам раскрыліся й загучалі, быццам сухая лістота, якую ён жменькай засыпаў у звычайную шклянку і заліў кіпнем. Ён зьявіўся нечакана, ніадкуль, зь іншага сьвету, пра які мы шмат чыталі й марылі, які старанна ўяўлялі й імітавалі, але які не набліжаўся, а наадварот, аддаляўся з кожнай новай кнігай, з кожным новым вывучаным гіерогліфам. Вочы глядзелі ветліва, уважліва і спакойна, плечы былі крыху згобленыя, як быццам ён насіў на сьпіне ўсю сваю трохтысячагадовую цывілізацыю. Але пры ўсім гэтым дзіўная адкрытасьць, неверагодная адкрытасьць. У ягоным позірку не было анічога загадкавага...

У той дзень мы разьбіралі адзін зь вершаў Лі Бо пра разьвітаньне старых сяброў. Ідучы ад аднаго слова да другога, мы спрабавалі скласьці іх у верш, знайсьці ў іх нешта такое, чаго мы былі пазбаўленыя. Мы шукалі невядомых глыбіняў, што засталіся там, у глыбіні стагодзьдзяў, і якія маглі нас зьмяніць дарэшты.

Усё было проста: старыя сябры разьвітваюцца пасьля доўгай і прыязнай размовы. Магчыма, яны перад гэтым доўга ня бачыліся, магчыма, адзін зь іх наважыўся на доўгую дарогу, каб патрапіць да сябра. І вось час разьвітаньня. Яны абменьваюцца разьвітальнымі словамі, простымі, дастаткова рытуальнымі, але ад гэтага ня менш паэтычнымі. Крыху краявіду, крыху традыцыйных мэтафараў. Надзвычай пусты верш. Пусты й цудоўны, як кажуць самі кітайцы. Адзіная дэталь, неверагодна датклівая, зьвязаная з кубкам для гарбаты. Гэты кубак, кажа на разьвітаньне адзін з сяброў, будзе цяпер заўсёды стаяць у мяне на стале. Кожны раз, калі я буду піць гарбату, дадае ён, я буду глядзець на гэты кубак і ведаць, што на другім канцы Паднябёснай у мяне ёсьць сябра. І ўсё ж датклівасьць гэтая была надта простая, а мы тады ня верылі ў простыя рэчы.

Але ў вершы адчуваецца яшчэ нешта няўлоўнае, пра што нам тады цяжка было даўмецца. Сябры разьвітваюцца на самоце, але ёсьць нехта трэці, які прадчувае, не, які дасканала ведае, што ў гэты самы момант на другім канцы Паднябёснай адбываецца падзея,

вынікі якой дарэшты зьменяць жыцьцё гэтых людзей. Падзея, пра якую яны ня ведаюць, але якая ўжо ведае пра іх. Падзея, якая іх разлучыць, якая не дазволіць ім больш сустрэцца. Няўлоўнае, цьмянае прадчуваньне. (Цяпер, празь дзесяць год, я амаль бачу гэтага трэцяга. Вочы, поўныя скрухі, ветлая мужнасьць інтанацыі, калі ён — слова за словам — прамаўляе (піша?!) гэты верш. Каму? Твар крыху губляецца ў паўзмроку, як на благім фатаздымку, цяжка зразумець нават узрост. Трыццаць? Сорак? Пяцьдзясят год?!)

Фатум. Непрыняты фатум. Кон, які разлучае. Анічога ня ёсьць больш пустым і абстрактным у дваццаць пяць, як фатум. Смак да *amor fati* прыходзіць крыху пазьней. А адчуваньне незваротнасьці, гэты саладжава-непрытомны пах паразы, якую кожны з нас атрымоўвае ў вайне з часам, паразы глыбока асабістай, пэрсанальнай, — гэтае адчуваньне спазьняецца надоўга і прыходзіць, калі ўжо анічога нельга зьмяніць, калі ўжо ўсё адбылося.

Фатум ня ведае глыбіняў. Ён прасоўваецца па паверхні. Ён нагадвае звычайную банальшчыну. Напрыклад: два сябры разьвітваюцца пасьля даўгой і прыемнай размовы й ня ведаюць, што ў гэты час на другім канцы Паднябёснай адбываецца падзея…

* * *

Я запрасіў яго дахаты. У маленькім пакойчыку мы пілі каву, я распавядаў яму пра нас, пра нашае жыцьцё. Пра нашую маленькую «кітайскую» сябрыну, пра вецер і плынь, пра Тао і прасьвятленьне, пра толькі адкрытую намі для сябе Беларусь і страшных суседзяў з Захаду і Ўсходу, якія заяжджаюць сюды на танках раз у паўстагодзьдзе, думаюць толькі пра сябе і для якіх такія тонкія, далікатныя, мэтафізычныя рэчы, як Беларусь, папросту не існуюць, пра Томаса Стэрнза Эліята і Вільню, пра сваю дачку… Часам так бывае: ты распавядаеш сваё жыцьцё чалавеку, якога бачыш упершыню і якога ніколі больш… (Пазьней я даведаўся — калі ты распавядаеш такія рэчы кітайцу, ён памятае гэта да самага скону. У кітайскай культуры асабісты расповед ёсьць знакам найвышэйшага даверу, немагчымай шчырасьці.) Фэн, так звалі майго госьця, слухаў нібы ў здранцьвеньні, потым выцягнуў фатаздымкі. «Мае карціны», – сказаў ён.

* * *

Карціны былі падкрэсьлена «заходнія». Іхны заходні

калярыт быў, напэўна, гэткай жа стылізацыяй, як і нашая «кітайшчына». І ўсё ж яна была істотнай. Гэта былі партрэты на тле Вялікага Муру. Дзікі, бязьлюдны ляндшафт, намаляваны амаль рэалістычна. Мур, зарослы і закінуты, цягнецца, захінаючы сабой (ва ўсіх карцінах) далягляд. На цьвіках (забітых у мур) вісяць карціны. Карціны ў карцінах.

Немагчыма апісаць гэта адчуваньне: на момант мне здалося, што я зразумеў нейкую істотную тайну. Там былі партрэты імпэратараў, якія акуратна віселі на вышыні чалавечага росту, былі партрэты багоў, рыбаў і птушак, партрэты закатаваных (бязрукіх, бязногіх, безгаловых целаў). Часам партрэтная рамка зьлівалася з тлом Вялікага Муру, й тады здавалася, што на цьвіках вісяць не партрэты, а самі людзі. Увесь гэты цыкаль зваўся «Барбары з Поўначы». На адной з карцінаў я пазнаў самога Фэна.

* * *

На наступны дзень ён мусіў ад'яжджаць.

Праз тыдзень пачалі прыходзіць лісты. Фэн пісаў іх у цягніку й адпраўляў з усіх магчымых станцыяў па дарозе. У іх было пра ўсё: пра дзяцінства і пра каліграфію, пра кітайскую паэзію й пра Ван Гога, пра шанхайскую самоту, пра дзесяцімэтровы пакойчык, у якім яны жывуць разам з жонкай і маленькім дзіцём, пра тое, што менавіта цяпер трэба быць асьцярожным — таму яны ня змогуць адразу выслаць запрашэньне — як мы дамаўляліся ў Менску.

* * *

Апошні ліст быў зусім кароткі. Фэн паведамляў, што яны прыехалі дахаты й мелі колькі часу на невялічкае падарожжа на Поўнач, да Вялікага Муру. Яшчэ ён пісаў, што, магчыма, хутка ўсё зьменіцца і яны гатовыя да ўсяго. Да ліста быў дададзены фатаздымак: Фэн разам з жонкай стаяць на Вялікім Муры, які губляецца ў глыбіні ляндшафту. На заднім пляне нейкія размытыя сылюэты — танныя кодакаўскія апараты не бяруць задні плян, — але можна заўважыць абрысы самой сьцяны, горы й нейкія чорныя кропкі, раскіданыя паўсюль.

Фатаздымак адразу знайшоў сваё мейсца — на паліцы старой шафы з кнігамі, за шклом. І, нягледзячы на ўсе нашыя пераезды й рэпарацыі, ён нязьменна знаходзіўся сярод папераў і кнігаў і нязьменна ўзносіўся на старую шафу. Гэтая нязьменнасьць пачала дзівіць і нават пужаць, тым больш што ад Фэна болей не было аніякіх

вестак, а мой ліст, падпісаны нязграбнымі гіерогліфамі, хутчэй за ўсё не дайшоў.

Час ішоў, абвалілася Імпэрыя і наш дзіцячы садочак з гіерогліфамі ўсё больш і больш адсоўваўся ў глыбіні памяці, каб выплываць адтуль у рэдкія моманты ўспамінаў. Я паступова забываў кітайскія вершы, Чжуан-Цзы, якога я быў зьбіраўся перакладаць, усё далей і далей патанаў у архіве. Маё памкненьне «на самоце граць старую мэлёдыю» таксама не атрымалася: пры першай жа магчымасьці я нечакана для сябе рынуўся ў вір жыцьця й праз пэўны час быў абкладзены з усіх бакоў падзеямі, праектамі, сустрэчамі, плянамі, рахункамі. Недзе раз на год, выпадкова перабіраючы паперы, я прыгадваю сваё старое жаданьне стацца вялікім самотнікам і сэнтымэнтальна ўсьміхаюся.

З часам усё мяняецца. Час увогуле надае ўсяму сапраўдны вымер і сапраўдную велічыню. Так, некаторыя рэчы на фатаздымку, які даслаў Фэн, нібыта расплыліся — фотаапарат і торбачка, якую трымае жонка, амаль не апазнаюцца, пераўтварыліся ў каляровыя плямкі. Затое вочы сталі больш выразнымі. У іх раптам праявілася туга, амаль што скруха. Ды й ледзь заўважныя кропкі на тле ляндшафту відавочна пабольшалі, пачалі набываць пэўную форму.

Звычайны турысцкі фатаздымак, нічога асаблівага.

Я ведаю: заўтра я напішу пра гэта апавяданьне. Там будзе шмат культурных гульняў, стылізаваных пад успаміны, крыху ўспамінаў, стылізаваных пад культурныя гульні, жменька сэнтымэнтальнасьці, разбаўленай юнацкім рамантызмам, — тонкае пісьмо, што так нагадвае ягоную ўлюбёную каліграфію. Усё гэта таксама расплывецца зь цягам часу, й застанецца самае істотнае: вочы, поўныя скрухі, ды чорныя кропкі на далеглядзе — барбары з Поўначы, што сьпяшаюцца на плошчу Цянь-Ань-Мэнь.

*Менск, 1997*

***Гайд-парк***
*(раман)*

цёмныя дрэвы ў парку
анічога ня бачаць:
нават уласнага ценю

**За фіранкамі**

*Undoubtedly but that it show, Shaun replied, the muttermilk of his blood donor beginning to work, and while innocent of disseminating the foul emanation, it would be a fall day I could not, sole, so you can keep your space and by the power of blurry words I am lo...*

Чытаць далей ня мела сэнсу. Ён паспрабаваў прасачыць ланцужок словаў наперад, радок за радком, намагаючыся адначасова ўцяміць, ухапіць, зразумець, прыдумаць (?) хаця б які сэнс. Сказ быў зьдзекліва-доўгі, кропка знайшлася адно на сярэдзіне старонкі.

У роспачы, незразумелай яму самому, ён паклаў кнігу на стол, забыўшыся паглядзець нумар... Ён знайшоў сябе ў невялічкім, тыпова студэнцкім пакоі. Ложак, дзьве шафы, лямпа, пісьмовы стол. Да сьцяны была прымацаваная вялікая дошка, на якой практыкаваліся ва ўлюбёнай гульні лёнданскіх пабаў — кіданьні дроцікаў. На стале ляжалі шэсьць кнігаў. Яны былі падабраныя досыць дзіўна: тры Дэрыда, адзін Эко, адзін Кундэра, адзін Ейтс.

Ён быў д-рам Стэфанам Д., ён ведаў гэта дакладна, знаходзячы сваё прозьвішча ў крэдытнай картцы, банкавых сумаваньнях, чэкавай кніжцы, а таксама ў разнастайных мэмарандумах, што прыходзілі да яго з рэгулярнасьцю прыродных цыкляў: зарэгістравацца ў лекара, аплаціць пражываньне, прыйсьці на вечарыну, памерці (?).

Ягонае прозьвішча глядзела на яго таксама й са сьціпла выдадзенай манаграфіі — *у маёй роднай мове* — як ён часам тлумачыў.

Пагартаўшы кніжку (каторы раз?), ён паклаў яе на месца.

Потым павольна падняўся й падышоў да вакна. Сёмы аўтобус, амаль што пусты, ехаў да Пікадылі. Можна было б пагуляць. Але іншым разам.

Ён падышоў да дошкі й акуратна занатаваў на ёй чырвоным флямастарам: скончым самотай.

* * *

Усё складвалася няблага. Ён прыляцеў у Гітроў увечары, яго сустрэлі й завезьлі на кватэру. Трымэстар пачынаўся толькі праз тыдзень, і ён меў часу паблукаць па горадзе, які ня бачыў дзесяць год, а таксама крыху адаптавацца да ірляндзка-ангельскае вымовы факультэцкай сакратаркі. Гэта было неабходна, інакш бы ён увесь год блытаў гадзіны й аўдыторыі. Ягоны кантракт з факультэтам і быў разьлічаны на год, а потым аўтаматычна працягваўся, калі не паўставала пярэчаньняў аднаго з бакоў.

Ён пераглядзеў свае канспэкты. Асабліва не хваляваўся, бо чытаў гэты курс ужо пяць гадоў на сваім факультэце ў Менску. Трэба было толькі сачыць за мовай ды стрымваць, па магчымасьці, паэтычныя адхіленьні, якімі ён *там* карыстаўся бліскуча. «Усходняя Эўропа: гісторыя й мэтафізыка рэгіёну». Ён падрыхтаваў некалькі сюрпрызаў.

* * *

Заняткі пачаліся неяк незаўважна, і гэтак жа незаўважна ён уцягваўся ў рытм новага жыцьця.

*Канец гісторыі, канец жыцьця, блуканьні па прасторы, лад якой ад цябе ўтоены, ён занатаваў гэта чырвоным флямастарам. І потым яшчэ: Утопіі не паміраюць, яны пражываюцца й застаюцца ў памяці, адкуль сьвецяць нам назаўсёды. Ці адбываецца штонебудзь?*

* * *

Усё пачалося зь нейкай прыкрай няўтульнасьці. Ён раптам зразумеў, што яму няма дзе застацца на самоце. Горад быў нібы вялікі пакой, добра мэбляваны, прадуманы, густоўны, някідкі. Але без свайго месца. Яму анічога тут не належала, акрамя ўспамінаў ды мрояў. Ён раптам адчуў сябе Сартравай пусткай, дзіркай сярод існага. Ён паступова прызвычаіўся сядзець у пабе, не размаўляць з калегамі пра істотныя рэчы, увогуле не размаўляць.

Адзінаю прыемнасьцю былі рэдкія сустрэчы з

Крысам, выкладчыкам славянскіх моваў, ірляндцам. Крыс меў пачуцьцё мэтафізыкі й павагу да паэзіі — якасьці дастаткова рэдкія на гэтай высьпе.

* * *

*Свабода ня ёсьць чыстаю адсутнасьцю Ўлады, запісаў ён на дошцы. Яна ёсьць прадуктам пэўнага тыпу Ўлады, яна ёсьць чыстаю адрознасьцю.*

* * *

Вяртаючыся пятнаццатым аўтобусам праз Оксфард-стрыт, ён раптам прыгадаў гульню, у якую гуляў падчас доўгіх начных вартаваньняў пасьля ўнівэрсытэту. Ён называў яе «за фіранкамі».

Тады ён практыкаваў яе як мэдытацыю альбо як выратаваньне. Ён ведаў, што ўсё безнадзейна, што прыйдзецца памерці на Радзіме, у клетцы. І ён гадзінамі ўяўляў, як ён блукае па Парыжы (Мадрыдзе, Лёндане, Рыме...), насяляў гэтыя прасторы сябрамі, падзеямі, тэкстамі. Ён займаўся гэтым як высокім рытуалам. Урэшце, ён мог усю ноч трызьніць «істотнаю размоваю» дзе-небудзь у невялічкай кавярні на ўскраіне Мадрыду.

Потым быў арышт, вызваленьне, потым была незалежнасьць, якую ён дасюль успрымаў як цуд. Потым былі абыякавасьць і снабізм з Захаду й нянавісьць з Усходу. Урэшце ён стаміўся жыць у атмасфэры ўсеагульнае няпэўнасьці, калі невядома — заваюць цябе заўтра альбо дзесяць гадоў пачакаюць.

* * *

Сэнсы нараджаліся й паміралі, усе ўтопіі былі пражытыя й цьмяна сьвяцілі з памяці.

* * *

Ён вяртаўся пятнаццатым аўтобусам і незаўважна адчуў сябе «за фіранкамі». Уяўленьне аўтаматычна перанесла яго ў невялічкі горад, якім ён аніколі дасюль ня мроіў. Ён павольна йшоў па галоўнай (ён чамусьці ведаў гэта) вуліцы, што, здаецца, заснула ў сваім забытым і нікому не патрэбным клясыцызьме. Ён павольна йшоў па невялічкай вуліцы й чамусьці ведаў, што за тым рогам — кавярня, а за гэтым — маленькая кандытэрыя. Усё так і было, і ў далейшым ён ужо не зьвяртаў увагі на горад, удыхваў яго даверліва й глыбока, як паветра, зь ягонымі

паркам і рэчкай, са зграбнымі й ціхімі вулкамі.

Гэта быў горад, у якім ён нарадзіўся. Ён раптоўна адчуў сябе Мідасам — усё, да чаго ён дакранаўся, на доўгія гады ператваралася ў міт, у словы, у павуціньне сэнсаў. Адно гэты горад неяк утрымаўся, ня трапіў у ягоныя каталёгі, так і застаўся на самоце, у патаемным схроне, безь ніякага сэнсу. Не схацеў быць мітам. Ён адчуў неадольную агіду да словаў. Сярод усяго толькі гэты горад сьвяціў маўклівым спадзевам.

* * *

*Сартр меў рацыю, — запісаў ён сінім флямастарам, — мы ніколі ня ёсьць тымі, кім мы ёсьць, і заўсёды ёсьць тымі, кім мы ня ёсьць. Мы нават ня ведаем, ці сапраўды мы існуем.*

* * *

Каля тэлевізара ў холе было зашмат людзей. Ён асьцярожна падышоў, прытуліўся да сьцяны. Ішоў незаплянаваны выпуск СіЭнЭн, празь сьпіны на экране была бачная чародка панцырных машын, што з характэрнымі гукамі ехала па вулках апусьцелага гораду.

Пяты танкавы корпус расейскае арміі ўваходзіў у Менск. Пачынаўся чацьверты падзел Усходняе Эўропы.

* * *

Яму асьцярожна спачувалі. Ён цяпер вёў яшчэ сэмінар для выкладчыкаў, дзе, як мог, камэнтаваў ход падзеяў і далейшыя пэрспэктывы. «Гэта анічога не вырашае», — паўтарыў ён словы аднаго менскага сябра. Прафэсары ў адказ усьміхаліся загадкавымі ўсьмешкамі, сэнс якіх ён не хацеў разумець.

* * *

*Усё сапраўднае адбываецца недзе там, за фіранкамі, запісаў ён.*

Крыс паведаміў, што на наступны год наўрад ці можна будзе працягнуць кантракт: ніхто не зацікаўлены ў тым, каб фінансаваць прывіды, альбо сны — такія доўгія сны аб існаваньні.

* * *

Дзень таяў, быццам недарэчны веснавы сьнег за

вокнамі, асьцярожна прасядаў у сутоньне, стомлены, сьмяротна хворы. Разам зь ім цьмянелі фарбы, згасалі ліхтары. Горад цкавала ноч... Пакойчык. Так, пакойчык. Заўсёды знаходзіш сябе тут — і заўсёды знаходзіў. Ня памятаеш, калі гэта пачалося — гэты прастакутнік падлогі, сьцены, столь, шпалеры. Хочацца сказаць: гэтак было заўсёды. Так, і лямпа пад стольлю — заўсёды. І фіранкі. Калі ўважліва глядзець на іх зморшчынкі, на ледзь бачнае пагойдваньне, на тое, як зьмяняецца ўзор на бачынках — можна забыцца на ўсё. Але яны разыходзяцца і — апошні тэатар — адбываецца там, за фіранкамі.

* * *

Ён вяртаўся праз Парыж, Вену й Менск, праз гады й падзеі, праз расейскія танкі й праскія кавярні, праз пазнаньскіх інтэлектуалаў і крывыя віленскія вулкі. Ён вяртаўся ў маўклівы горад, які не захацеў стаць мітам, у горад, дзе маленства дарэшты зблыталася з каштанамі, а немудрагелісты малюнак вулак, здавалася, існаваў адвеку — ці то іх узрост быў старэйшы за яго, ці то праўда Плятона й спрадвечныя эйдасы забрылі ў вобразы ягонага дзяцінства.

Ён вяртаўся, ён бег, нязграбна, сьмешна, безнадзейна, і расейскі вартавы гелікоптар кружляў над ім, робячы далёкія колы, хаваўся й вяртаўся зноў, каб працягнуць прыемнасьць, каб забіць яго не адразу, а ён усё бег, утаймоўваючы сэрца, у нікуды, чымсьці падобны да Дыяніса, а можа, і сам Дыяніс, памерлы і ўваскрослы бог, на тлустай чорнай ральлі Ўсходняй Эўропы.

*Менск, 1994 г.*

### *Энцыкляпэдыя для героя: цягнік*

Прагрукатаў, шпурнуў на чыгунныя рэйкі, пацягнуў за сабой. Здалося: усё рынулася наўздагон. Але колы гучаць здалёк, вось іх ужо ня чутна. І да цьмянага шэрага сьвятла дадаўся гостры агеньчык цыгарэты. Малады хлапец, амаль што юнак, шмат часу стаяў, прытуліўшыся да агароджы, рука з цыгарэтай ледзь бачна дрыжэла. Потым ён павольна пайшоў каштанавымі прысадамі... На шматпавярховым гатэлі зьлева гэтак жа павольна каналі літары відэагазэты...

Асьцярожна, спрабуючы ня бразгаць, ён адамкнуў дзьверы, у перадпакоі паклаў торбу на падлогу, адразу прайшоў на кухню. Там з хвіліну сядзеў, абхапіўшы галаў рукамі. Потым знайшоў каўны млынок, засыпаў кавы, абкруціў ручнікам, улучыў у разэтку. Гук усё адно быў

прарэзьлівы, хлапец здрыгануўся.

У суседнім пакоі жанчына расплюшчыла вочы, прыслухалася. Паднялася, накінула халат, пашукала пантофлі. Адчыніла кухонныя дзьверы, але не ўвайшла, затрымалася ля іх.

— Мінулае начы ўсё нешта грымела на вуліцы, я так і не заснула... Яна сказала гэтыя словы стомлена й крыху няўпэўнена, быццам выбачалася. Хлапец вылучыў млынок, сеў, пагледзеў ёй ў вочы.

— Вядома, ноч. Так усё і адбываецца. Патанаеш у начы, нешта грыміць, скавыча й няможна спаць... Жанчына пацёпала плячыма.

— Пра што ты гаворыш? Хутка будзе сорак дзён... Бацька ўжо паставіў агароджу, зрабіў на заводзе... Трэба шмат грошай, дзе ж ты іх возьмеш... Калісьці і я там лягу...

— Ноч — лепшы час, каб верыць у сьвятло...

Жанчына ўзяла зэдлік, села, стомлена прытулілася да сьцяны.

— Пра што ты гаворыш? Ты ўвесь час пра штосьці гаворыш, я не разумею... Ты паглядзі на сябе, які ты стаў... Раней прыяжджаў, прыемна было глядзець... А цяпер...

Малады хлапец выцягнуў цыгарэту.

— Анічога ня здарылася. Ужо колькі год анічога анідзе... Ня варта нэрвавацца...

— Раней прыяжджаў, усё падабалася...

* * *

Наступным днём пасьля абеду хлапец стаяў у бібліятэцы, павольна гартаў томік Акутагавы. Бібліятэкарка, якой ужо не аднойчы прыходзілася спускацца ў сховішча і вяртацца ні з чым, глядзела на яго з прыкрасьцю.

Зірнуўшы на гады жыцьця, хлапец падумаў:

Пачатак стагодзьдзя, усё зразумела. Ніцшэ, Стрындбэрг, Дастаеўскі. Адзінота, пакута, Бог і ўсё гэткае: хаця б нейкія спадзяваньні.

Тут ён выпадкова пачаў чытаць апошнія радкі нататак «Зубчастыя колы»:

«...жыць у такім душэўным стане невыносна: няўжо ніхто не задушыць мяне паціху, у сьне». Надрукавана пасьля скону. 1927 год.

Некалькі сэкундаў ён стаяў у здранцьвеньні. Міжволі ў вачох зьявіліся сьлёзы.

— Божухна, няўжо чалавек можа так пакутаваць? — ён сказаў гэта паўшэптам, для сябе. Потым яшчэ раз,

уголас:

— Божухна, няўжо чалавек можа так пакутаваць?!

Бібліятэкарка і некалькі наведвальнікаў са зьдзіўленьнем пагледзелі на яго.

* * *

Праз восем гадзінаў хлапец сядзеў у агульным вагоне начнога цягніка каля вакна. Побач селі жанчына гадоў трыццаці зь дзіцём і вясковая бабулька зь цяжкімі клункамі. На бязьлюдным пэроне сьпінай да яго стаяла зграбная дзяўчына з доўгімі прыгожымі валасамі.

У суседнім купэ пачалі спрачацца, нехта закрычаў, заплакала дзіцё.

Жанчына стомлена пакруціла галавой і прытуліла дзіцё да сябе, старая нешта сказала — і яе твар стаў да болю знаёмым. Дзяўчына на пэроне неўсьвядомлена паправіла валасы.

Нягледзячы на ўсе пакуты, сьвет таямнічым спосабам існаваў: ІСНАВАЎ.

Пэрон калыхнуўся, дрэвы, будынкі, дзяўчына скрануліся й паплылі. Горад паступова ішоў у мінулае.

Kindberg

Ад Курскай касы да Вільні колькі гадзінаў і потым яшчэ крыху да мяжы, дзе заўсёды чакаеш найгоршага, пакуль памежнік не запытаецца, куды яна едзе, глупае пытаньне, апошняя мадэль Рэно зь беларускімі нумарамі і эфэктнай брунэткай, энэргічнай і крыху стомленай, вядома, яна вяртаецца дадому, так, надвор'е было фан-тас-тыч-нае, хацелася б пасьпець у Менск да дзявятай, Ганна паварочвае галаву ў звыклым гэсьце, якім яна абрывае недарэчныя размовы, і глядзіць у будысцкую пустату наўпрост перад сабой, праз мытны ангар, рэйсавы аўтобус наперадзе, кудысьці далёка, дэманструючы бізантыйскі профіль, нос зь лёгкай гарбінкай, які так падабаецца Артуру, яе вусны яшчэ нешта прамаўляюць, але, вядома, ужо не для ашмянскіх памежнікаў, якія мусяць разумець, што размова скончана, што для такіх, як Ганна, яны заўсёды будуць надакучлівым і непазьбежным дадаткам да ружовага штампіка «вяртаньне на радзіму». Рука аўтаматычна цягнецца да *Cosmopolitan*, яшчэ сёньня на сьвітанку яна блукала па пяшчаных плёсах, самота, амаль два тыдні поўнага спакою, але гэта ўжо недзе далёка ў мінулым, Ганна запальвае цыгарэту й прымружвае вочы, уяўляючы нечаканае вяртаньне, Артур, пацалунак і гарачая ванна, пена да столі і потым *Paris Lumiére* па *TV 5*,

парыскія тэатры — яе страсьць, галоўнае выехаць на наўпроставую дарогу, хуткасьць сто шэсьцьдзесят, бартавы кампутар з анты-радарам будзе надзейна сыгналізаваць пра ДАІшныя патрулі.

Ганна ўключае запальваньне, памежнік доўга глядзіць на ейны профіль, шукаючы падабенства з пашпартным фатаздымкам, які, вядома, зроблены анфас, невыносныя сэкунды, калі ў сьвядомасьці адбіваюцца ўсе дробязі, кроплі поту на твары кіроўцы аўтобуса, голас па рацыі, які перадае прыкметы нейкага парушальніка, лёгкі ветрык, пошум лістоты, чыесьці крыкі, але гэта ўжо агонія, і праз хвіліну Ганна ўпэўнена набірае хуткасьць, галоўнае выехаць з памежнае зоны, напханай знакамі забароны й патрулямі, зрэшты, уся краіна -- памежная зона, пра гэта лепей ня думаць, не псаваць сабе настрой і бізнэс Артуру, палітыка псуе густы, яна нарэшце знайшла стыль для наступнай выставы, гострыя, рэзкія абрысы ў пяшчаных дзюнах, паставы тонуць у жвіры, які цячэ праз пальцы, як жыцьцё.

Ганна крыху расслабляецца, пры хуткасьці пяцьдзясят краявід за вакном праплывае надта павольна, сылюэты пагоркаў пачынаюць нагадваць штосьці няўлоўна знаёмае, пахі дзяцінства. Наперадзе нейкі дзівак няўпэўнена апускае руку, Ганна ніколі не спыняецца, ніколі не мяняе сваю аўтамабільную самоту на бязглуздае марнаваньне часу ў дарожных размовах, але пагоркі за вакном пахнуць чымсьці знаёмым, знаёмая пастава, і гэты гэст, нібы з далёкага ўспаміну, зь дзяцінства, не, гэта немагчыма, адкуль пасярод дарогі, тут, праз столькі гадоў.

* * *

Міхал няўпэўнена апускае руку безь якога-колечы спадзяваньня спыніць гэтую машыну, усё адразу пайшло ня так, як задумваў, ён выйшаў на патруль, кляцканьне затвораў, і ён, з торбай бэтакамаўскіх касэтаў і глупым кошыкам для грыбоў, поўны назад.

Рэно спыняецца праз дваццаць мэтраў, гэта не міраж, асьцярожна апусьціць кошык на зямлю, спакойныя, упэўненыя крокі, ён не сьпяшаецца, пачакаць, сесьці на задняе мейсца, дзякуй вялікі, вы мяне страшна выручылі.

Пагоркі за вакном пахнуць забытым мінулым, Ганна павольна кранаецца зь мейсца й паварочвае галаву, дэманстратыўна разглядаючы ў люстэрка чалавека на заднім крэсьле, аніякіх сумневаў, праз дванаццаць гадоў

выпадкова падабраць на гэтай жа дарозе, Ганна трымае паўзу, смакуе гэтыя сэкунды маўчаньня, да таго як будуць прамоўленыя першыя словы, радасьць сустрэчы, банальная й непазьбежная.

Ліна?! Міхал нарэшце дазваляе сабе падняць голаў і крыху разгледзець эфэктную брунэтку ў апошняй мадэлі Рэно, страшна знаёмы профіль, лёгкая гарбінка, няўжо, прайшло столькі часу, і вось гэтыя зялёныя вочы, да якіх ён аднойчы дакрануўся губамі.

* * *

Слова *аднойчы*, як і тузін іншых словаў-падманак, спрабуе нэўтралізаваць загадку часу, разьбіваючы яго на сотні і тысячы дробных «аднойчы», кожнае зь якіх мае дакладную адрэсу (аднойчы тут, іншым разам там), скончаную і самадастатковую, як прыступкі, але ўсё гэта ўрэшце сканчаецца вялікім *аднойчы нідзе*, і ўжо няма аніякіх адгадак, толькі пустата, як быццам прыступкі раптам абрываюцца, у бездань альбо ў неба.

Міхал даўна ўжо не спрабаваў дзяліць на кавалкі тое, што аніяк ня дзеліцца, ён адчуваў час як вецер, які дзьме і выдзьмувае кавалкі твайго жыцьця, часам лагодна й ледзь заўважна, калі ўсё вакол амаль не варушыцца, а часам як ураган, але галоўнае не падманвацца, што ты некуды ідзеш, па прыступках альбо па дарозе, разьбітай на кавалкі дробных *аднойчы*, насамрэч ты стаіш, нібы помнік, і вецер часу выдзьмувае зь цябе ўсё неістотнае, найменш трывалыя рэчы адыходзяць адразу, імпэрыі развальваюцца, руйнуюцца гарады і якая-небудзь сьціплая шафа застаецца з табой найдаўжэй.

Міхалу хацелася верыць, што вецер часу зьдзьмувае толькі абалонкі, але памяць, якая турбавала й не пагаджалася, зноў і зноў вяртала неістотныя дробязі, зь якімі не было як даць рады, і ён з жахам разумеў: ягоныя вочы ўсё больш углядаюцца ў мінулае і што сапраўдная таямніца часу ў тым, што аднойчы не адбылося, хаця магло адбыцца, імкнулася да здарэньня…

* * *

…тысячу гадоў ніхто не называў яе Лінай, і Ганна раптам нямее, адчуваючы, як дзіўнае цяпло разьліваецца па яе целе, як яе сьвядомасьць раздвойваецца, і вось яна стаіць на пустой дарозе, дванаццаць год таму, пад дажджом, за дзесяць кілямэтраў ад Вілейкі, хіпушка-першакурсьніца, якая вырашыла праехацца аўтастопам да

Вільні. Дождж, які раптам пачаўся ў прыцемках, старыя дрэвы паабапал дарогі, ціхі й цёплы летні дождж, і яна раптам штосьці зразумела, адчула, лёгкія пяшчотныя датыкненьні, кроплі вады зь неба, і вось яна павольна ідзе па дарозе, прымружыўшы вочы, з адчуваньнем немагчымага шчасьця, амаль не рэагуючы на машыны, нібы аголеная, аўто спынілася за дзесяць мэтраў перад ёй, яна моўчкі адчыніла дзьверы й проста села на задняе крэсла, да Алены, нічога не тлумачачы, з прасьветленым тварам, з адчуваньнем немагчымага шчасьця. Міхал вёў машыну, і было так лёгка, яны адразу ўсё зразумелі і таксама сталі шчасьлівымі, таксама адчулі гэты дождж, Алена загадкава ўсьміхнулася й наліла каньяку, хаця ў гэтым не было патрэбы, гэта Міхал першы назваў яе Лінай, і яна раптам прыгадала, што так і не сказала, як яе завуць, але гэта было неістотна й было глупа пярэчыць, Ліна дык Ліна, Алена дапамагла зьняць мокрую вопратку, яна накінула стары плед, каньяк дадаў цеплыні і лёгкасьці, яшчэ крыху — і яна, напэўна, магла б паляцець, але яна проста сядзела, шчасная, слухаючы, як Міхал распавядае пра Ліну, дзяўчынку-медзьведзянятка з Картасаравай навэлы, якая спрабуе аўтастопам дабрацца ад Сант’яга да Капенгагэну і, напэўна, у яе атрымаецца, і гэтая дзяўчынка сустракае па дарозе Марчэла, які прадае зборныя канструкцыі паўсюль, дзе толькі можна, яна слухала гісторыю крыху няўважліва, яшчэ каньяку, так, дзякуй, і ў самы адказны момант, у Самы Трагічны Момант, калі пасьля начы каханьня Марчэла высаджвае Ліну на дарозе, яна раптам пачала ціхенька напяваць сабе «за дахамі места», ад залацістага цяпла цягнула на сон, яна засынала на хвіліну й прачыналася й раптам сапраўды адчула сябе Лінай з Картасаравай навэлы, Вільня, Капэнгаген, паўсюль ішоў цёплы дождж, і гэта было самае істотнае ў сьвеце.

Потым, у Вільні, у Аленінай аднапакаёўцы, заваленай эцюдамі й красьленьнямі, яны пілі чырвонае віно, прыгадваючы радкі й пэрсанажаў, і Ліне так хацелася слухаць, яна патрабавала музыкі, Міхал паставіў літоўскі джаз і, прамаўляючы гішпанскія словы зь незразумелым акцэнтам, інтанаваў *Llamado Kindberg, a traducir ingenuamente por montana de los nicos*, гэта таксама было, як цёплы дождж, які ўсё яшчэ ішоў за вакном, які дарыў шчасьце, было глупа пытацца пра імёны й адрэсы, яны абавязкова сустрэнуцца, у Менску, Вільні альбо Капэнгагене, пад цёплым дажджом, дамаўляцца — гэта

значыць не давяраць сусьвету, так добра сядзець на падлозе, абдымаючы Міхала й Алену, не, яны не каханкі, проста сябры, хаця й могуць сабе часам дазволіць большае, але без каханьня, каханьне зьнішчае таго, хто любіць, зьнішчае жаданьнем валодаць і не аддаваць, жаданьнем затрымаць імгненьне, быць заўсёды, усе мы медзьведзяняткі пад дажджом, і апошні тост за беднага Марчэла, якога няма з намі, нарэшце яны заціхаюць, зьняможаныя, на падлозе, а потым

Міхал, які падыходзіць і асьцярожна цалуе яе ў вочы, у моцна заплюшчаныя вочы.

* * *

Дзіўнае цяпло разьліваецца па яе целе, і Ганна высілкам волі прымушае сябе быць тут, не праваліцца ў мінулае, туды, дзе засталася Ліна (дзе яна пакінула Ліну?), наіўная істота без уласнай сутнасьці, гатовая распусьціцца ў сьвеце, гатовая ісьці пад дажджом немаведама куды, размалёўваць клетку дзіцячымі малюнкамі, бо Ганна ведае, што сьвет — гэта клетка, цэля, лябірынт — бяз сэнсу, затое зь безьліччу вартаўнікоў і канваіраў, гатовых прывесьці на чарговы допыт (у чым сэнс твайго мастацтва? а што ты зрабіла для Радзімы? чаму ты ніколі не падаеш жабракам?), упарта ісьці да выйсьця, адстрэльваючы вартаўнікоў, што там, за гэтым выйсьцем, пра гэта Ганна ня думала, бо галоўнае ісьці, не спыняцца, напэўна, яна не кахала Артура, бо кахаць — гэта заставацца тут, на мейсцы, а галоўнае прабрацца бліжэй да выйсьця, навонкі, у прастору, пра якую ніхто нічога дакладна ня ведае, дзе маленькая балерынка зь яе карціны танчыць у атачэньні хіжых вачэй, што глядзяць зь цемры.

Часам Ганна ненавідзела Ліну, даверлівую дзяўчынку, якая не задае пытаньняў, нікуды не сьпяшаецца і якая, здаецца, зусім не зьбіраецца аднойчы памерці, дзяўчынку-медзьведзянятка (саторы ў Вілейцы, дзякуй, чыталі мы вашага Судзукі), але цяпер пагоркі пахлі чымсьці знаёмым, прайшло столькі часу, і Ганна раптам адчула, што ёй нават

падабаецца быць крыху раздвоенай, мець побач яшчэ аднаго пасажыра, бо няма сумневаў, гэта яна, Ганна, вядзе гэтую машыну, яна кіруе і выбірае дарогу, дык чаму б не дазволіць сабе дзяўчынку-медзьведзянятка з забытай гісторыі, якая ціха сядзіць на заднім крэсьле і штосьці мармыча побач зь Міхалам, так, Міхал сядзіць і чакае, паўза зацягнулася, знайсьці лёгкі тон і вось ужо першыя словы — сьмешна, як усё супадае, зноў аўтастоп, гэта

наканаванасьць, памятаеш, як мы чыталі апавяданьне пра Кіндбэрг, і што ў нас са зборнымі канструкцыямі, ці заняўся хто-небудзь? Міхал раптам разумее, што анічога немагчыма патлумачыць, патрулі, касэты — усё гэта ў будучыні, яшчэ мусіць адбыцца, а размова адбываецца ў мінулым, а таму застаецца прыняць усё як *было* і вярнуцца назад, на мокрую, сьлізкую дарогу, у адзін зь летніх дзён, у мястэчка Кіндбэрг — вядома, як можна ня памятаць такія рэчы, з канструкцыямі цяжка, прыходзіцца займацца разборнымі — даўна забытая гіронія, лёгкая будысцкая безнадзейнасьць узору 1987 году, і раптам асьцярожнае маўчаньне — ці не замнога прамоўлена ў гэтай гульні словаў, ці не спрабуе ён *зблытаць памяць і жаданьні.*

Празь некалькі кілямэтраў паварот на Смаргонь, а потым далей на Вілейку, і Ганна пачынае крыху хваляваца, праз дванаццаць гадоў, Вілейка, маленькая Вільня, мястэчка Кіндбэрг уласнай пэрсонай, дзіцячая гара, якая можа вярнуць цябе назад у дзяцінства, Ліна на заднім крэсьле штосьці сьпявае, Ганна спакойная і ўпэўненая, гэта яна вядзе машыну, яна выбірае дарогу і плаціць па рахунках, Міхал змаўкае, а вось і заварот, крыху прытармазіць, а потым рашуча налева, заедзем у Вілейку, замовім гатэль, я люблю гэтыя правінцыйныя гатэлі, яны цяпер цалкам пустыя, паблукаем, вып’ем добрага віна, пазвонім Алене ў Вільню, адчуць гэтую інтанацыю спакойнай упэўненасьці, яна можа сабе дазволіць маленькую дзіцячую казку, у якой героі сустракаюцца праз дванаццаць год, вядома, яна не тэлефанавала Артуру, яна любіла вяртацца нечакана.

* * *

У мястэчка Кіндбэрг добра заяжджаць пад вечар, калі ад будынкаў застаюцца адно цьмяныя сылюэты, якія плывуць у цёплым празрыстым паветры, стагодзьдзямі тут анічога не мяняецца, часу проста няма, яму тут няма чым заняцца, хіба што пацiху расьцярушваць мясцовую царкоўку, касьцёл і руіны сынагогі, помнік Леніну на галоўным пляцы ўжо таксама стаўся руінай, ён амаль не вытыркаецца, а сам правадыр, здаецца, ужо гатовы разам з усімі прадаваць бульбу на мясцовым кірмашы, вядома, яна памятае дарогу, спачатку гатэль, апартамэнты на дзьвюх асобаў, калі ласка.

Кампары зь ільдом, адзінае што можна піць у мястэчку Кіндбэрг, адзінае, што ёсьць у бары, акрамя мясцовай гарэлкі і падазроных настоек «са смакам ківі»,

Ганна страшна доўга стаіць пад душам, быццам змываючы зь сябе дванаццаць год, Ліна расплюшчвае вочы і выходзіць, адчуць гэтае цела, як быццам упершыню ў жыцьці, Міхал глядзіць на яе, расслаблена, згубіўшы адчуваньне часу, глядзіць, як яна выходзіць з вады з мокрымі валасамі, глядзіць на лінію сьцёгнаў, на вусны і раптам разумее, што гэта Ліна, што немагчымае вяртаньне ў мінулае адбылося і Ліна, дзяўчынка-медзьведзянятка, толькі з-пад дажджу, стаіць перад ім, аголеная, Алена, дарэчы, у Каліфорніі, хтосьці мусіць заставацца, хтосьці мусіць любіць гэтыя пагоркі, Міхал адводзіць мокрыя кудзеркі валасоў, ягоныя рукі сасьлізгваюць уніз, туды, дзе плечы, грудзі, і супакойваюцца на выгіне сьцёгнаў, супакойваюцца перад тым, як канчаткова патануць у шале, на рыпучым дабітым ложку, у гатэлі-руіне прамінулай індустрыйнай эпохі, у адным з магчымых часоў гэтага прывіднага жыцьця ў няіснай краіне.

* * *

Ганна прачынаецца першая, паварочвае галаву, халодна ў гэтых правінцыйных гатэлях, душ, крыху макіяжу, зрэшты, няма пра што шкадаваць, часам варта выпасьці са звыклага рытму, Артур не зьвяртае ўвагі на такія рэчы, ён не раўнуе да мінулага, а гэта ўсё адбылося ў мінулым, дванаццаць гадоў таму, пэўна, голас у тэлефоне ў трэці раз паўтарае, што няма ніякіх сьняданкаў, ніхто тут і ня чуў пра сьняданкі ў гатэлі, рэстарацыя праз квартал пачынае працаваць а дванаццатай, дзіўнае адчуваньне пустаты, Міхал расплюшчвае вочы й глядзіць на эфэктную брунэтку, такую знаёмую й такую чужую, бізантыйскі профіль, які так падабаецца Артуру, глядзіць, як з кожнай сэкундай зьнікае Ліна, зрэшты, немагчыма заставацца медзьведзяняткам у трыццаць, калі цябе штохвілінна шліфуе час, пакідаючы адно гострыя сылюэты ў пяшчаных дзюнах, застаецца толькі застыць, нібы камень, спадзеючыся, што час выкрасьліць выпадковае, Міхал углядаецца і ўпершыню бачыць Ганну, што стаіць перад люстэркам, Ганну, якая ведае, што такое руіны, ведае, што такое выбіраць, адмаўляцца і плакаць, эфэктную брунэтку ў апошняй мадэлі Рэно, выстава ў Празе, халоднае жыцьцё ў няіснай краіне.

* * *

Так хараша й крыху трывожна, Кіндбэрг, мястэчка, адкуль выяжджаеш зранку, у поўным шчасьці, можна

крыху расслабіцца, спакойна маўчаць, забыцца, зноў гэтыя патрулі, Ганна спыняе машыну, вось даверанасьць і тэхпашпарт, калі ласка, адчуць трывожны пагляд Міхала, ягоная нага вытуквае нейкі рытм, ён відавочна захваляваўся, а цяпер вашыя дакуманты, адкуль едзеце, адзін застаецца каля машыны, другі ідзе нешта спраўдзіць па рацыі, так доўга, адчуць халодны спакой Міхала, Ганна паварочвае галаву, ягоныя вочы, з шчасным і безнадзейным адчаем, варушэньне вуснаў у разьвітальным пацалунку, што адбываецца, хрыплы голас у міліцэйскай рацыі, так, гэта ён, безнадзейна халодныя вочы Міхала й цьмяная здагадка, учорашнія паведамленьні, жарт пра разборныя канструкцыі, апісаньне парушальніка, пакінуты на дарозе кошык для грыбоў, эфэктная брунэтка ў апошняй мадэлі Рэно. Адчуць непрамоўленае жаданьне Міхала, так, гэта магчыма, адпусьціць счапленьне, разгон за шэсьць сэкундаў, а потым згубіцца дзенебудзь сярод лесу, толькі трэба націснуць на газ, забыцца пра тое, што будзе потым, непрыемнасьці ў Артура, яе выстава ў Празе, трэба толькі зрушыць, націснуць на гэтую халерную пэдаль. Дзіўнае цяпло разьліваецца па яе целе, салодкая амарока, ад якой няма паратунку, нага сама цягнецца да газу, яшчэ крыху, забыцца на ўсё, Ганна амаль што гатовая зрабіць гэта і раптам пранізьлівае разуменьне, што гэта не яна, а Ліна спрабуе цяпер націснуць на газ, што гэта Ліна была зь Міхалам у гатэлі, толькі Ліна можа і мае права на такія ўчынкі, толькі яна ня плоціць па рахунках, і Ганна нерухомее ў здранцьвеньні, апошняй помсьце, апошняй перамозе над наіўнай дзяўчынкай з забытае навэлы, якая так настойліва ўблытваецца ў ейнае жыцьцё, дзяўчынкай-медзьведзяняткам, маленькай балерынкай у атачэньні хіжых вачэй, што глядзяць зь цемры.

Хрыплы голас па рацыі, прафэсійныя рухі, выходзьце з машыны, пісталет Макарава, болей ня раім нікога падбіраць на дарозе, шчасьліва дабрацца да Мінску, Ганна паварочвае галаву й адчайна глядзіць яму ў сьпіну, навошта кайданкі, словы захрасаюць у горле, напэўна, нейкая спазма, што вы чакаеце, шчасьліва дабрацца да Мінску.

З маленькага беларускага мястэчка Вілейка лепш за ўсё выяжджаць зранку, і Ганна нарэшце адпускае счапленьне й кранаецца зь мейсца, эфэктная брунэтка ў апошняй мадэлі Рэно, крэйсэрская хуткасьць сто шэсьцьдзесят, бартавы кампутар з антырадарам, любіць наўпроставыя дарогі, без ухілаў, гострыя, як страла, вакол вецер і дрэвы

зьліваюцца ў адзін шэраг, у адну куламесу, наперадзе гарачая ванна, *Paris Lumiére* па *TV 5*, які ўжо, дарэчы, пачаўся, сёньня мы наведаем невялічкі тэатар у *Café de la Gare* на *rue de Temple*, маленькі аматарскі тэатар для беспрацоўных актораў, маленькі тэатрык на вуліцы, затлумленай дарэшты кітайскімі аптовымі крамкамі, на пачатку сямідзясятых тут гралі *Coluche* і *Miou-Miou*, ня кажучы пра Дэпардзьё, камэра павольна, страшна павольна наяжджае на фатаздымак маладога Дэпардзьё ў фае, пакуль Ліна, схіліўшы голаў на руль, да апошняга выціскае газ і выяжджае на сустрэчную паласу, у адчайным безразважным гэсьце, адным з тых, якія так любяць рабіць дзяўчаткі-медзьведзяняткі.

***Ліст Адаму Міцкевічу***
*пра сьмерць Літвы,*
*напісаны Адамам Клакоцкім у Ліпнішках*
*па дарозе на Вільню*

Час гуляецца з тварамі і нябытам
Душа набывае форму маўклівых прысадаў:

Па якіх ідуць на сваю Галгофу
Ксёнз Робак, сьляпая Марыля

Арфэй, Густаў, Анджэй Тавяньскі Гільгамэш,
Шапэн, граф Суліма-Заблоцкі...

Вечар Літвы: нібы кулі ноч рассыпала зоркі
Зьверы на ўсіх шляхох: што нам застаецца?

Сны
ды магія словаў, што забылі прачнуцца

## Апалёгія Сакрата

*Прысьвячаецца Сяргею К.*

Ягоная сьмерць не была раптоўнай: пра такі паварот падзеяў шмат хто здагадваўся ад самага пачатку. Але ён расьцягнуў свой кубак цыкуты на дзесяцігодзьдзі, разбаўляючы яго танным чырвоным віном, ромам, гарэлкай, півам ды іншымі напоямі… Я не пайшоў на ягонае пахаваньне: я быў хворы — альбо сказаў, што быў хворы… Па шчырасьці, я проста не хацеў бачыць, як яго апускаюць у зямлю: мне дасюль цяжка пагадзіцца, што яго больш няма з намі. Мая адсутнасьць на пахаваньні дазволіла мне ня верыць у ягоную сьмерць, ці, больш дакладна, паводзіць сябе так, як быццам ён нікуды й не сыходзіў…

Я часьцяком раблю яго героем сваіх тэкстаў… укладаю ў ягоныя вусны філязафічныя развагі, асабістыя прызнаньні ці нават простыя, звычайныя словы. Ён наўрад ці на гэта пакрыўдзіўся б пры жыцьці, а ўжо пасьля сьмерці… Спадзяюся, што тое мейсца, адкуль ён цяпер глядзіць на нас, яму спадабалася…

Ягоны твар, скрыўлены саркастычнай усьмешкай, дасюль зьяўляецца мне на менскіх вулках, нібы здань. Я нават не абарочваюся… У моманты рэдкіх успамінаў ён заходзіць і ў маю сьвядомасьць — гэтак жа ўпэўнена, як калісьці ў піўнуху — пацясьняючы ўсіх «несьмяротных», гётэў з кафкамі і джойсаў з вальтэрамі… Ведаю, што ён не дачакаецца запрашэньня ў манаграфію, дый што б ён там рабіў, на тых мёртвых старонках… Цалкам магчыма, што яны нагадалі б яму адмысловае пекла, прызначанае для філёзафаў-манаграфістаў… Напэўна, на скраі маёй душы засталася нейкая нітка, што ўсё яшчэ лучыць мяне зь ім… па якой ён перадае нешта істотнае… Яшчэ крыху — і яна зьнікне, таму я мушу ўсё гэта… Ведаю, што запозна… Яшчэ два па сто каньяку… Так, глёрыю і аловак, калі ласка…

* * *

Першая палова ягонага жыцьця настолькі звычайная, што ўтрымалася ў маёй памяці толькі ў самых агульных рысах: я ня памятаю ані назвы вёскі, у якой ён нарадзіўся, ані падрабязнасьцяў ягонага дзяцінства. Зрэшты, гэта ніколі не было тэмай нашых бясконцых дыялёгаў. Ён нарадзіўся недзе на Магілёўшчыне, ягонае другое

нараджэньне адбылося значна пазьней і, наколькі я магу меркаваць, у Менску. Пасьля звычайнай вясковай школы і спаўненьня грамадзянскага абавязку ва ўзброеных сілах былой імпэрыі ён застаўся служыць далей прапаршчыкам: гэта забясьпечыла яму адносна бязьбеднае існаваньне… У параўнаньні з усходнебеларускай вясковай нішчымніцай яно, напэўна, здавалася раем… У якім ён за тры гады так занудзіўся, што вымушаны быў прачнуцца (нарадзіцца) яшчэ раз, гэтым разам на аддзяленьні філязофіі нашага слаўнага Ўнівэрсытэта. Там мы й сустрэліся.

* * *

Пра гэтую сустрэчу ходзяць шматлікія легенды. Распавядаюць розныя глупствы пра прыгожага белага лебедзя, нібыта прысьнёнага ім у брудным інтэрнацкім пакойчыку перад сэсіяй, пра нейкія незвычайныя прадчуваньні. Усё было больш проста і звычайна.

Я стаяў на калідоры гістфакаўскага інтэрнату на Сьвярдлова, пасьля сустрэчы новага (1983) году, і спрабаваў ня думаць увогуле. Ён падышоў і запытаўся, ці магу я растлумачыць яму простымі, звычайнымі словамі, тымі, што патрапіліся пад руку, што значыць «трансцэндэнтальнае адзінства апэрцэпцыі». Сакрат, дадаў ён, ня змог бы нікога спакусіць у сваіх Атэнах, калі б ён пісаў так стылістычна бяздарна, як спадар Імануіл, а значыць — тут ён зрабіў глыбокадумную паўзу — і філязофіі магло б не паўстаць, бо калі б ён не спакусіў Плятона… тут паўза была яшчэ даўжэйшая. Я ўжо ня памятаю дакладна, што яму адказаў, але сэнс быў у тым, што: а) Сакрат анічога не пісаў, бо ня ўмеў б) узятыя паасобку такія эмпірычныя факты, як брудны зялёны калідор, прусакі, раскіданае сьмецьце, бутэлькі з-пад шампанскага, прыгожыя дзяўчаты, два ідыёты, якія размаўляюць пра Канта, здольныя сынтэзавацца ў нашай сьвядомасьці ў адзіны і цэльны вобраз савецкага інтэрнату толькі дзякуючы гэтаму самаму буржуазнаму «трансцэдэнтальнаму адзінству апэрцэпцыі».

Проціпастаўленьне «савецкага» і «буржуазнага» ў маім прамаўленьні яму, відавочна, не спадабалася, але нашая палітычная дыскусія была нядоўгай. Рэч у тым, што я ў той час ужо *шукаў мудрасьць*, і таму, замест хаця б нейкай пэўнасьці, паціху пераставаў разумець сэнс таго, што адбывалася вакол мяне. Я пачуваўся, як актор на сцэне, які раптам пачынае ўсьведамляць, што цьмяна памятае свае *словы* — і які ўжо здагадваецца, што да пачатку

другога акту ён іх *пэўна забудзе*.

У ягоных вачох я прачытаў той самы страх.

* * *

Мы чыталі адныя і тыя ж кнігі, але, відавочна, па-рознаму. Нашыя жыцьцёвыя сьцежкі таксама пайшлі ў розныя бакі. Ён мужна трымаўся на паверхні жыцьця, меў выдатныя адзнакі, вучыў старагрэцкую мову. Пасьля сканчэньня паступіў у асьпірантуру і напісаў-такі дысэртацыю пра сваіх улюбёных старых грэкаў. Нешта пра лёгіку ў Плятона. Ня ведаю, дзе ён знайшоў у яго лёгіку.

Я ж пасьля сканчэньня знайшоў сабе ціхае мейсца начнога прывіда ў адным зь дзіцячых садочкаў і пісаў свае абсурдныя дыялёгі, у якіх, напэўна, было ўсё, акрамя гэтай самай лёгікі.

Пасьля асьпірантуры ён паехаў у Гомель, уладкаваўся ў мясцовы ўнівэрсытэт і нават атрымаў службовую кватэру. Пры нашых рэдкіх сустрэчах ён натхнёна гаварыў пра студэнтаў, пра новыя магчымасьці, пра нашую родную старонку, у ваконца якой вось-вось зазірне доўгачаканае сонейка. Пісаў пра антычныя матывы ў Скарыны. Ён выглядаў аптымістам.

Зрэшты, чалавечы аптымізм зусім не злачынства. Калі развалілася імпэрыя, нават мне на хвіліну здалося, што мы выходзім зь *пячоры да сьвятла ідэяў*. Даравальная наіўнасьць. Цяпер я разумею, што мы проста перайшлі з адной пячоры ў іншую, больш зручную. У будучыні, напэўна, больш чыстую і прыгожую. Да таго ж мы атрымалі нарэшце магчымасьць пераходзіць зь пячоры ў пячору, задавальняючы сваю дзіцячую цікавасьць да новых мейсцаў. Я думаю, неўзабаве пачнецца іх прыватызацыя.

* * *

Я ня ведаю, чаму і ў які момант ён перастаў паўтараць *напісаную кімсьці ролю*.

Магчыма, ён проста яе забыў, магчыма, перастаў разумець, што адбываецца. Але ў пэўны час ён кінуў граць разам з усімі і пачаў бясконца пытацца ў сябе і ўва ўсіх астатніх, які сэнс у нашым спэктаклі.

Напачатку гэта ня надта адбівалася на ягонай кар’еры. Ён стаўся дацэнтам і адной з культавых постацяў мясцовай беларускай грамады. У яго пыталіся парадаў, асьпіранты ішлі да яго плоймамі. Праўда, ягоныя тэорыі

станавіліся ўсё больш і больш радыкальнымі і ўсё менш зразумелымі.

... Але ўсё пачалося з сустрэчы ў рэктарацe. Прыехалі заходненямецкія выкладчыкі, і расчулены рэктар сабраў усіх на нефармальную сустрэчу «пад гарбатку». Немцы таксама расчуліліся і гаварылі доўга і пераканана. Кожная другая прамова пачыналася прабачэньнямі за ваеннае мінулае, а сканчалася прыгадкай пра брудныя прыбіральні ўнівэрсытэту, з расчысткі якіх і трэба пачаць унівэрсытэцкую рэформу. Апошні прамоўца нават выказаў перакананьне, што на гэта, пэўна, можна будзе знайсьці грошы ў эўрапейскай супольнасьці. Пасьля гэтага далі слова С. як адзінаму, хто добра гаварыў па-нямецку.

*Лепш быць бруднай жывой чарапахай, чым чыстым і мёртвым унітазам, распачаў ён на сваёй дасканалай нямеччыне. Мы знаходзім сябе ў чыстай прыбіральні сьвету. Знакі (інфармацыя) няспынна змываюцца, але прадукцыйнасьць такая высокая, што на іх мейсца адразу ж паступаюць новыя. Далей ён прапанаваў тэорыю сьвету як унітаза, а Бог (альбо Багі) выступілі ў яго дасканалымі сантэхнікамі.*

Немцы правільна зразумелі, *хто ёсьць кім* у гэтай тэорыі. Яны падняліся і пачалі разьвітвацца. Калі зьмест прамовы С. пераклалі рэктару, той, натуральна, запатрабаваў заяву *па асабістым жаданьні.*

Заява была выкананая ў форме невялікага філязофскага трактату пра тое, што менавіта ў нашых жаданьнях мы можам лічыць асабістым, а што належыць да больш высокага онталягічнага ўзроўню.

*Вы думаеце, што вы думаеце,* — *сканчалася яна,* — *і гэта самая вялікая памылка.*

* * *

Ён ня быў настаўнікам і не хацеў гуляць гэтую ролю, хаця бясконца пытаўся ў сябе і ў іншых пра Аўтара нашага спэктаклю. Пасьля гісторыі з унітазамі яму прыйшлося здаць сваю гомельскую кватэру й зьехаць у Полацак. Там ён працягваў выкладаньне, гаворачы ў аўдыторыі пра ідэі і творы, а паза ёй — пра найвышэйшую мудрасьць на ўсё гэта забыцца. Па вечарох у інтэрнаце для выкладчыкаў ён спрабаваў уцелясьніць дыялёгі Плятона, ладзячы жывыя «сымпазыёны», на якіх, цалкам у згодзе з антычнымі рэаліямі, было шмат напояў і мала закускі. Гэта дадало яму

папулярнасьці сярод студэнтаў і ціхі страх выкладчыкаў. Ясна, што для нашага слаўнага Адраджэньня ён таксама паступова ставаўся пэрсонай *нон грата*.

Ён анідзе ня мог затрымацца: Наваполацак яму надакучыў праз год, а ў іншыя ўнівэрсытэты яго больш не запрашалі. Карыстаючыся выпадковымі знаёмствамі, я знайшоў яму інтэрнацкі пакойчык у Менску і працу ў ПэдУнівэрсытэце. Але тое, што ён пачаў рабіць зь беларускімі пэдагогамі, прымусіла мяне абыходзіць гэты ўнівэрсытэт за два кварталы…

…Апошняй кропкай сталася ягонае затрыманьне прэзыдэнцкай камісіяй, што мусіла правяраць якасьць выкладаньня і вандравала па калідорах у пошуку выпадковых ахвяраў. Ён піў у аўдыторыі танную (на той час) *Сафію* славянскага разьліву разам са студэнтамі, абмяркоўваючы прамову Дыятымы ў Плятонавым «Піры». Гэтага было дастаткова дзеля распачынаньня працэсу.

* * *

Ён сышоў і вярнуўся ў сваю вёску, пасьвіў кароў, працаваў паштаром. Лепш размаўляць з каровамі, чым зь людзьмі, сказаў ён неяк пры сустрэчы, але такім тонам, што было ясна — менавіта размоваў зь людзьмі яму й не стае. Ён зразумеў, што ягоныя ўцёкі на Крыт былі памылкай. Увосень ён вярнуўся ў Менск і дапіў свой келіх цыкуты.

* * *

Ягоная апошняя ноч апісаная шматлікімі сьведкамі. На жаль, мяне зь ім не было: я захварэў.

* * *

Калі я сёньня прыгадваю ўсе гэтыя падзеі, я ўсё часьцей пачынаю думаць, што людзі — толькі лялькі ў тэатры ценяў, створаныя багамі… дзеля баўленьня часу ў іх сумнай вечнасьці. Мы, нібы акторы ў боскім тэатры, галоўнага рэжысэра якога ніхто ў вочы ня бачыў. Да нас, лялек, — да нашай душы — прымацаваныя матузкі, голад і пажада, гнеў і каханьне, торгаючы за іх, нас скіроўваюць у той альбо іншы бок. Нам дадзеная мова — зь якой мэтай і кім, мы дасюль не разумеем. Магчыма, гэта проста забаўка, каб нам ня так сумна было сядзець у нашым цёмным скляпеньні. Мы падманваем адно аднаго з дапамогай мовы, мова падманвае нас з дапамогай сваіх прыгожых словаў, якія, мы ўсё яшчэ спадзяемся, усё ж

такі камусьці нешта гаворaць...

Калі мы нараджаемся другі раз, мы пачынаем з пошукаў дасканаласьці, чалавечая душа, здаецца, мае ў сабе столькі высокіх памкненьняў, столькі сьвятла, што яшчэ пару крокаў — і мы зразумеем штосьці вельмі істотнае... У маладосьці мы нават спадзяемся стацца гаспадарамі саміх сябе. Потым мы знаходзім сябе ў пячоры, на сцэне тэатру ценяў, і разумеем толькі тое, што нам зь яе ніколі не ўцячы.

* * *

Пра зьмест самой п’есы меркаваньні падзяляюцца. Напачатку было нават захапленьне, потым усе крыху стаміліся. Сёньня мала хто ставіцца да яе сур’ёзна. Некаторыя нават мяркуюць, што багі проста памёрлі і мы граем адную й тую ж п’есу з уласнага глупства альбо па інэрцыі. Іншыя перасьцерагаюць, што нейкія спрытнюгі ў адсутнасьць рэжысэра пралезьлі за кулісы і спрабуюць торгаць адтуль за нашыя матузкі. Гэта праўда — калі багі былі жывыя, матузкі больш-менш кантраляваліся; сёньня іх торгаюць усе, хто толькі можа: мэдыі, палітыкі, бюракраты, ідыёт з суседняй кватэры.

Праўду кажучы, мне ўжо пад сорак і я мала думаю пра ідэі. Мяне больш цікавяць матузкі. Я нават вырашыў напісаць пра іх кнігу: *Законы.*

## ***Вяртаньне ў Сэйкэн***

*Жыцьцё* — такая рэч, у якую ты аднойчы выходзіш і больш нікуды не вяртаесься: ані ў места, дзе ты нарадзіўся, ані ў часы, якія ты памятаеш, і толькі бяжыш наперад, гнаны бязьлітасным часам, які, зрэшты, сам цячэ ўсё хутчэй, не даючы хаця б крыху затрымацца на скрыжаваньнях саду сьцежак, што ўцякаюць ад цябе ў розныя бакі...

*Жыцьцё тут* (некаторыя завуць яго беларускай доляй) — такая рэч, што з усіх магчымасьцяў (якіх, зрэшты, ня так ужо і шмат) ты мусіш выбраць адно з двух: альбо, знайшоўшы сябе ў маленькім затаптаным перадпакоі Вялікага Заходняга Сьвету, спрабуеш разам з усімі выбраць з 75 гатункаў кавы свой уласны гатунак і разумееш, што гэта анталягічна немагчыма, што цывілізацыя, якая прапануе 75 гатункаў кавы, насамрэч цікавіцца ня праўдай, але разнастайнасьцю, альбо, перайшоўшы праз дарогу, разьмяшчаесься разам зь Ніцшэ ў мясцовай вар'ятні і, як транквілізатар, прымаеш *вечнае вяртаньне*, захлынаючыся ў аргазьме *amor fati*...

Ня надта любячы выбіраць штосьці адно, урэшце я натыкнуўся на загадкавы верш аднаго кітайца, што дайшоў да мяне ў ангельскім перакладзе зь японскай мовы, недакладная беларуская вэрсія якога апошні год так грэе маё сэрца.

*дваццаць гадоў вандроўнік*
*рушыў на захад усход*
*вярнуўся ў Сэйкэн*
*я не зрабіў і кроку!*

Калі яму верыць (а чаму б і не?), мы мусім уявіць, што існуе пэўная прастора, якая ў вершы завецца Сэйкэн, у якую мы заўсёды вяртаемся. Ці дакладней, зь якой насамрэч мы ані на мілімэтар ня можам скрануцца.

Магчыма, у гэтай прасторы не абавязкова выбіраць адно з двух. Магчыма, там няма аніякіх перадпакояў. Магчыма, там не абавязкова быць упэўненым у існаваньні ўласнага Я.

Магчыма, там усё яшчэ штосьці магчыма.

**«Ключы ад незамкнёнае брамы»**
**(10 думак на разьвітаньне)***

1. ...Хаця сам аўтар схільны лічыць гэтую кнігу «дзесяцьцю мэдытацыямі з нагоды неіснаваньня сьвету», у гэтым невялічкім разглядзе мы будзем трактаваць яе як факт літаратуры, г. зн. зь перабольшанай сур'ёзнасьцю ставіцца да словаў, выказаных аўтарам, і зь пераменшанай — да прабелаў між імі. Хаця, мушу адразу заўважыць, менавіта прабелы — між словамі, між аповедамі і нават між літарамі — мусяць быць прачытаныя найбольш уважліва, бо менавіта прабелы, *недагаворанае*, і даюць у гэтай кнізе сапраўдны ключ да разуменьня цэльнасьці ўсяго тэксту.

2. Такім чынам, перад намі *прастора ценю*, якую некаторыя завуць Лябірынтам, некаторыя Бібліятэкай, а некаторыя Беларускай доляй. Адам Клакоцкі, прывід якога зьяўляецца на пачатку раману, — не спрабуе шукаць уваходы й знаходзіць выхады з гэтай прасторы. Ягоная задача значна больш простая — распасьціся ў гэтай прасторы на дзесяць гісторыяў, разьмежаваных адна ад адной эпіфаніямі,

* Фрагмэнты лекцыі, прачытанай у Беларускім Калегіюме.

у якіх аўтар (ня блытаць з Аўтарам!) адчайна спрабуе зашыфраваць свой містычны досьвед. Самі ж тэксты запісаныя ў розных кодах — ад клясычных палімпсэстаў (*Kindberg* як непрыхаваная алюзія-спрэчка з Картасаравым *Lugar llamado Kindberg*, *Апалёгія Сакрата*, дзе наратар са зьдзіўленьнем (вядома, крыху фальшывым) напрыканцы ўсьведамляе сябе Плятонам) да анты- і посткаляніяльных гісторыяў (*Магдачка, За фіранкамі*), герой якіх, выпадкова знайшоўшы Радзіму, потым спрабуе ад яе пазбавіцца. Сапраўднай жанравай знаходкай кнігі зьяўляюцца «ненапісаныя раманы» (мяне асабліва цешаць «*Кнігі самураяў*» — трэці ненапісаны раман, які не ўвайшоў у кнігу, сюжэтам якога ёсьць напісаньне ўсіх астатніх ненапісаных раманаў).

3. Некалькі вобразаў і ідэяў, якія паўтараюцца праз усю кнігу, мэтафары, якія перацякаюць са старонкі на старонку, прымушаюць думаць пра сымуляцыю прозы на карысьць паэзіі. Зрэшты, аўтар і ня думае хаваць свае паталягічныя прыхільнасьці да некаторых словаў

(напрыклад, слова «сон», якое паўтараецца безьліч разоў у безьлічы кантэкстаў, хаця й азначае ўвесь час розныя рэчы).

4. Але менавіта таму, што тэксты так адкрыта дэманструюць сваю тэкстуальнасьць, так непрыхавана, навязьліва спасылаюцца на безьліч іншых тэкстаў, спрабуюць падгрэсьці пад сябе інтэлектуальную гісторыю роднай старонкі апошніх двух тысячагодзьдзяў — менавіта таму закрадаецца сумнеў у сур'ёзнасьці ўсяго гэтага. Урэшце да некаторых чытачоў прыходзіць разуменьне (хаця й памылковае), што перад намі — невялічкая галерэя фантазмаў, копіяў без арыгіналу, — г. зн. сымулякраў (няхай даруе мне беларускі тэатральны крытык Вячаслаў Р., які страшна ня любіць гэтых мілых зьвірушак).

5. Замкнуты ў клетку паўпрывіднай мовы, адной зь дзьвюх дзяржаўных моваў ня менш паўпрывіднай краіны, аўтар са сваімі пэрсанажамі не імкнецца выглядаць занадта рэальным, і гэта крыху суцяшае.

6. Кніга напісаная зь любоўю да Беларусі, і гэта суцяшае таксама. «Зь любоўю, — як любіць удакладняць аўтар у прыватных гутарках, — за яе далікатную непрысутнасьць у эўрапейскім культурным наратыве».

7. Часам аўтар стамляецца быць Аўтарам, і тады ён даручае гаварыць самой мове — *die Sprache selbst* — на што тая пагаджаецца зь відавочнай неахвотай. Гэта і зразумела: вось ужо другое стагодзьдзе мову нашую мы абараняем, песьцім, распавядаем ёй пра яе мілагучнасьць, матчыннасьць і беларускасьць. Сама за сябе гаварыць яна ўжо, відавочна, развучылася. У падтэксьце кнігі ляжыць цьмяны спадзеў, што мова нашая калісьці вымкне зь пялюшак лёгікі й граматыкі на больш пракаветную прастору і тады задушыць усіх сваіх абаронцаў.

8. (усё яшчэ няма думак)

9. Сэміятычным ключом да аналізу *тэкстуальнасьці* гэтае кнігі можа стацца праблема *матываванасьці знака*. Як мы памятаем, клясычная сэміялёгія настойвае на тым, што знак матываваны *адвольна*, але *сыстэмна*. Знакі гэтае кнігі — клясычныя клінамэны, якія імкнуцца забыцца на

ўсе магчымыя матывацыі ў сваёй уласнай неабвержна-галюцынагеннай прысутнасьці. Тэма доктарскай дысэртацыі магла б гучаць: «Адам Клакоцкі: сэміятычны аспэкт галюцынагеннай прысутнасьці знака».

10. Таму, хто мае намер патануць у гэтых тэкстах, ня будзе патрэбная аніякая сэміялёгія.

**Ігар Бабкоў**

Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Гомелі. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (аддзяленне філасофіі). Працуе ў Інстытуце філасофіі Акадэміі навук Беларусі. Займаецца кампаратыўнай філасофіяй і гісторыяй ідэй. Выкладае ва ўніверсітэтах Мінска і Вільні. Пры канцы 80-х быў сябрам літаратурных суполак “Бабілён” і “Тутэйшыя”. Браў удзел у аднаўленні газеты “Наша Ніва” на пачатку 90-х, быў адным з заснавальнікаў “Беларускага калегіума”, выдаваў і рэдагаваў часопіс “Фрагмэнты”. Лаўрэат прэміяў “Гліняны Велес”, “Залатая літара”, “Залаты апостраф”. Фіналіст сярэднееўрапейскай прэміі Angelus (Вроцлаў).

Празаічныя творы, вершы і эсэ Ігара Бабкова перакладзеныя на польскую, украінскую, літоўскую, англійскую, нямецкую, чэшскую й вугорскую мовы. З’яўляецца аўтарам тэкстаў да песень гурта “Новае Неба”. Упершыню раман “Адам Клакоцкі і ягоныя цені” быў выдадзены ў 2001 годзе.

**Бабкоў І.М.**

Адам Клакоцкі і ягоныя цені. Раман у дзесяці гісторыях. 2-е выд. / Ігар Бабкоў. — Мінск : І. П. Логвінаў, 2001. — 136 с. — (Серыя “Я кнігу маю”).

**ISBN 978-985-6991-90-8.**

“Адважны асветнік і энцыклапедысты” Ян Адам Марыя Клакоцкі, ствараючы Беларускі Архіў Сноў, запісвае і каталагуе начныя мроі людзей XIX стагоддзя…

Аматараў інтэлектуальных гульняў і блуканняў па разнастайных кантэкстах еўрапейскай культуры і гісторыі, магчыма, не падвядуць і астатнія фабуляцыі аўтара. Вяха ў айчыннай інтэлектуальнай прозе, раман Ігара Бабкова “Адам Клакоцкі і ягоныя цені” зрабіўся першай беларускай кнігай не для ўсіх.